НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 8 (941) 24 лютага 2016

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады




## У Мінску патрабавалі адстаўкі Кабякова

Старонка 3.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Для МВФ прыдумалі балду

**Аказалася, што пакрыццё кошту ЖКГ насельніцтвам складае не 40%, а 80%.**

Кіраўнік Беларусі, заслухоўваючы даклад аб падатковай і акцызнай палітыцы ў 2016 годзе, выказаў абурэнне з нагоды сітуацыі з тарыфамі на ЖКП.

«Мы быццам там усё палічылі?» — нагадаў ён. Старшыня Камітэта дзяржкантролю Леанід Анфімаў канстатаваў, што неабходныя разлікі былі праведзеныя, але з прымяненнем на практыцы атрымалася з дакладнасцю ды наадварот, усё было зроблена, што называецца, «ад балды».

«Значыць, надзеньце кайданкі тым, хто не выканаў даведзеныя па маім загадзе тарыфы. Надзеньце і публічна пасадзіце дзясятак-другі чалавек. Усё стане на свае месцы, — запатрабаваў кіраўнік дзяржавы.

— Тут павінен быць спіс, хто гэтую «балду» прыдумаў. Хопіць з імі жартаваць. Мы тут нешта лічым, плануем, а яны робяць усё па-свойму».

Акрамя таго, Аляксандр Лукашэнка даручыў, каб да 1 сакавіка старшыня КДК, кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта, прэм'ер-міністр азнаёмілі яго з разлікамі тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі.

«Вываз смецця, асвятленне, ліфт, уборка, цеплавая энергія, цёплая і халодная вада, газ, электраэнергія — усё падлічыць і пакласці мне гэтыя тарыфы», — сказаў кіраўнік дзяржавы. Ён падкрэсліў, што службовыя асобы, якія не дадуць рады даручэнням, панясуць за гэта адказнасць.

Аляксандр Лукашэнка расказаў, што чыноўнікам было дадзена заданне прааналізаваць сітуацыю з тарыфамі на ЖКП і правесці дакладныя разлікі. Аказалася, што пакрыццё кошту паслуг насельніцтвам складае не 40%, а 80%.

«Давялі жорсткія тарыфы. Што яны пачалі рабіць? Яны пачалі мудрыць і ўводзіць нейкія паказчыкі», — сказаў Аляксандр Лукашэнка, прывёўшы ў якасці прыкладу перапрацоўку цвёрдых бытавых адходаў.

«Гэта значыць, займаюцца прыпіскамі, каб скрасці грошы з бюджэту легальным шляхам. А ў нас артыкул за гэта, за гэта трэба саджаць», — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка і дадаў, што ў Беларусі ў гэтай сферы навядуць парадак.

**Працяг на старонцы 3.**

**Домрачава, Глеб, Ганчарэнка: як спартыўная эліта абжывае бераг Мінскага мора**

У Лапаравічах зямлю раздаюць чэмпіёнам, як у Драздах – чыноўнікам. **Старонка 4.**

**Тэхнічныя рэгламенты Мытнага саюза падпісалі прысуд беларускай мове?**

Піша Андрусь Гаёвы. **Старонка 10.**

**Як беларусаў змушалі плаціць за ўласную ж русіфікацыю**

Пра стварэнне ў Мінску рускага тэатра піша гісторык Зміцер Дрозд. **Старонка 14.**

**Старонка 5.**

**Як літоўская гісторыя кахання давяла Ганну Шарэйка да суда**

# Валэнса: усё няпроста

Палякі расчараваныя, што легендарны лідар «Салідарнасці» **не здолеў прызнацца**, што ў далёкім мінулым быў даносчыкам спецслужб.



Валэнсу завербавалі ў 1970, падлавілі на страху пасля рабочых беспарадкаў. Ён быў сексотам да 1976, пакуль не адбрахаўся. А «Салідарнасць» ён узначаліў у 1980

Пра складаны эпізод біяграфіі легендарнага лідара «Салідарнасці» Леха Валэнсы рабочыя Гданьскай верфі пагаворвалі яшчэ ў 1980-я гады. Валэнса там працаваў электрыкам, і, відома, калегі сёе-тое бачылі, здагадваліся.

У 1992 годзе тэму паднялі былыя паплечнікі Валэнсы, якія не маглі прабачыць яму кампраміс з камуністамі.

«Салідарнасць» прыйшла да ўлады ў выніку Круглага стала, на якім было вырашана: камуністы аддаюць уладу, Польшча пераходзіць да дэмакратыі, але пад мінулым падводзіцца «тлустая крэска». Нікога з былых уладаў ні за што не пераследуюць. Валэнса стрымаў свае слова і не парушыў гэтых пагадненняў.

Восем гадоў таму гісторыкі Славамір Цэнцкевіч і Пётр Гантарчык напісалі тоўстую кнігу «Лех Валэнса і Служба бяспекі», у якой упершыню навукоўцы Інстытута нацыянальнай памяці прыводзілі доказы агентурнага мінулага легенды «Салідарнасці». Гісторыкі адкапалі доказы таго, што, быўшы прэзідэнтам, Валэнса атрымаў з архіваў свае персанальнае дасье і вярнуў яго праз некаторы час без соцень дакументаў. Кніга выклікала гарачыя спрэчкі, аўтараў абвінавацілі ў палітычным заказе. Яны звольніліся з працы.

Новая хваля «справы Валэнсы» ад папярэдніх адрозніваецца тым, што ўпершыню з'явіліся дакументы, якія пацвярджаюць данасіцельства Валэнсы для камуністычных спецслужб.

Ад часоў падзення камунізму іх захоўваў на сваёй варшаўскай віле кіраўнік спецслужб ПНР генерал Чэслаў Кішчак. Ён памёр летась. Паводле яго волі, дакументы Валэнсы павінны былі пабачыць свет праз пяць гадоў пасля смерці экс-прэзідэнта. Але жонка генерала паспяшалася і перадала дакументы ў Інстытут нацыянальнай памяці на мінулым тыдні.

Імавернасць таго, што дакументы падробленыя — мінімальная.

У тэчках Валэнсы, які працаваў пад мянушкай Болек, каля 800 старонак. Першы дакумент — гэта дэкларацыя аб супрацоўніцтве. Яе Валэнса падпісаў у 1970 годзе, пасля крывавага падаўлення рабочай забастоўкі ў Гданьску. Тады міліцыя, душачы беспарадкі, расстраляла некалькі дзясяткаў рабочых.

Калі верыць дакументам з хатняга архіва Кішчака, то Валэнса за 6 гадоў супрацоўніцтва са Службай бяспекі, напісаў 110 даносаў на рабочых Гданьскай верфі. У іх Валэнса паведамляў, дзе рабочыя друкуюць самвыдат і ўлёткі з заклікам да забастоўкі. Тлумачыў, як выглядае работа прафасаюзаў, апісваў змест размоваў сваіх знаёмых. Перадаваў афіцэру нелегальныя матэрыялы, якія раздаваліся на верфі.

Афіцэры Службы бяспекі ацэньвалі інфармацыю ад Валэнсы як вельмі каштоўную. За даносы Болек атрымліваў грошы, што даводзяць матэрыялы ў тэчках і подпісы Валэнсы на квітанцыях. За 6 гадоў агентурнай дзейнасці Валэнса атрымаў 13 тысяч злотых. Для параўнання: месячны заробак рабочага ў 1970-я гады складаў 2 тысячы.

Супраца СБ з Валэнсам спыняецца ўлетку 1976 года. Ён адмаўляецца сустракацца з афіцэрам з-за нібыта хваробы, нарэкае, што стаў менш зарабляць за перадачу інфармацыі. Карацей, стараецца «саскочыць». 7 чэрвеня 1976 года афіцэр Службы бяспекі Раман Грачык (які дагэтуль жывы) спыняе супрацу з Валэнсам.

Раней галоўнай лініяй абароны Валэнсы ад абвінавачванняў у супрацы з СБ былі дакументы, якія атрымаў Нобелеўскі камітэт у 1982 годзе. Каб дыскрэдытаваць лідара «Салідарнасці», спецслужбы даслалі ў Стакгольм дакументы пра яго агентурную дзейнасць. Але Валэнса змог даказаць у судзе, што яны падробленыя. Дакумент з тэчкі Болека тлумачыць гэтую дэталь. У паперах Валэнсы захавалася заява МУС у 1982 годзе з просьбай выдаць дакументы Валэнсы для аперацыі «Амбасадар», мэтай якой была якраз кампраметацыя Валэнсы ў вачах Нобелеўскага камітэта.

Усе гады пасля падзення камунізму Лех Валэнса абвяргаў абвінавачванні ў супрацы з СБ і судзіўся за свае добрае імя нават з былымі паплечнікамі. Яго галоўным аргументам была адсутнасць дакументаў і статус пацярпелага ў гады ПНР. Шэсць гадоў таму экс-прэзідэнт падчас аднаго з тэлевізійных інтэрв'ю прызнаўся, што «нешта некалі падпісаў, як і ўсе, але ніякай супрацы не было». Цяпер спробы абвергнуць абвінавачанні ён робіць праз сацыяльныя сеткі. На жаль, лінія абароны не выглядае пераканаўча.

Валэнса за некалькі дзён апісаў пару версій падзей, частку дапісаў выдаляў, потым з'яўляліся новыя тлумачэнні. А пасля публікацыі Інстытутам нацыянальнай памяці даносаў на былых сяброў Валэнса напісаў, што «яны былі ніхто і застануцца нікім».

Паводле апошняй версіі, Валэнса пагадзіўся падпісаць дэкларацыю аб супрацы толькі пасля слёзных упрошванняў афіцэра СБ. Маўляў, гэбісту пільна былі патрэбныя грошы і ён прыдумаў гісторыю пра фіктыўную супрацу з Валэнсам, каб не страціць работу і пракарміць сям'ю. А Валэнса злітаваўся і падпісаў. Цяпер Валэнса просіць таго афіцэра ва ўсім прызнацца, каб ачысціць сваё імя.

Абаронцы Леха Валэнсы сцвярджаюць, што супраца з СБ была ўсяго фрагментам жыцця адважнага чалавека, які знішчыў камунізм. Чалавека, які пасля расстрэлу рабочых у 1970-м быў запалоханы і зрабіў памылку, але потым не напоўніцу адпакутаваў. Праз чатыры гады пасля таго, як ён перастаў быць сексотам, ён узначаліў «Салідарнасць». Гэта было геройства. За такое Саветы маглі і забіць, і што хочаш.

Крытыкі Валэнсы звяртаюць увагу на іншы момант. На іх думку, Валэнса павінен быў расказаць пра той эпізод з мінулага.

Маўляў, не знайшоўшы смеласці ва ўсім прызнацца, Валэнса быў на кручку ў камуністаў, якія шантажавалі яго публікацыяй дакументаў. Менавіта таму, паводле іх, Валэнса пайшоў на «міравую» з камуністамі і не правёў люстрацыю. Былыя камуністычныя начальнікі сталі вялікімі бізнэсменамі і працягвалі запраўляць у краіне.

Польшча пасля 1989 года моцна рванула наперад. Раней палякі жылі на адным узроўні з беларусамі і ўкраінцамі. Цяпер мы з імі — як неба і зямля. І ўсё адно ў Польшчы шмат хто моцна незадаволены пераменамі 90-х, шокавай тэрапіяй Бальцэровіча, карупцыяй. І Валэнса для многіх — сімвал страчаных шанцаў.

У крытыкаў і ў абаронцаў Валэнсы ёсць бясспрэчныя аргументы.

Для першых ён баязлівец, марыянетка СБ і амаральны чалавек, які даносіў на сваіх сяброў.

Для другіх супраца з СБ — гэта ўсяго эпізод, які завяршыўся ў 1976 годзе, за 4 гады да ўзнікнення «Салідарнасці». Для іх Валэнса — герой, які выпутаўся з павуціння спецслужбаў і перамог камунізм. Асоба, якую жудасная сістэма надламала, але не зламіла.

Усе мы ведаем, што гісторыя не любіць умоўнага ладу. Невядома, што было б, калі б не было кампрамісу з камуністамі. Можа, кроў. А можа, Польшча стала б другой Ірландыяй. І гэтай спрэчцы ніколі не будзе канца. Але я магло б проста не быць. Пры ўмове, калі б Валэнса на самым пачатку прызнаўся, што аднойчы зрабіў памылку.

Праўда робіць чалавека свабодным. Польскую дзяржаву свабоднай зрабіла «Салідарнасць», 10-мільённы рух рабочых і інтэлігенцыі, на чале каторага стаяў не чалавек-ікона.

**Дзмітры Гурневіч, журналіст «Польскага радыё» і тэлеканала «Белсат»**

## Сціслa

**«Куфар» з «Крумкачамі»**

Дошка інтэрнэт-аб'яваў Kufar.by стала спонсарам прыватнага футбольнага клуба «Крумкачы». Іншым партнёрам каманды стала піваварная кампанія «Крыніца». «Крумкачы» запэўніваюць, што змаглі сфарміраваць бюджэт на наступны сезон.

**На «Еўрабачанне» паедзе крымская татарка**

Ад Украіны на «Еўрабачанне» паедзе крымская татарка з пранізлівай песняй пра дэпартацыю свайго народа. Журы абрала іншага выканаўцу, але пераважылі галасы гледачоў.

**Тарыфная стаўка вырасла, але толькі на 3 тысячы рублёў**

Тарыфная стаўка аплаты працы бюджэтнікаў павышана з 292 да 295 тысяч да рублёў.

**У цягніках падаражэла пасцель**

Зараз пасажырам плацкартаў і купэ за бялізну трэба заплаціць 15 тысяч рублёў. Раней такі ж набор абыходзіўся ў 11 тысяч. А ў плацкарце і купэ фірмовых цягнікоў за пасцель прыйдзецца выкласці 20 тысяч.

ЯМ

## Прыватныя абвесткі

**Віншуем**

**Рамуальду і Паўла Юхневічаў** з нараджэннем дачкі Адэлі.
**Насту і Змітра Дашкевічаў** з нараджэннем сына Давіда.
**Александрыну Глагольеву і Яўгена Васьковіча** — з узяццем шлюбу.
**Мікалая Кудзерку** віншуюць з Днём народзінаў сябры Мікалай і Ірына. Поспехаў, шчасця і багацця!

## Апытанне

**Ці лічыце Вы кантрацэпцыю грахом?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 115 | 10% |
| Не | 782 | 63% |
| Як якую | 94 | 8% |
| Як калі | 30 | 2% |
| Я ўвогуле не прызнаю паняцця «грэх» | 214 | 17% |

Усяго прагаласавала 1235

## Самае чытанае на nn.by за 17—23 лютага

1 «Павышэнне акцызаў — паліва, тытунь…» Што напісана ў цыдулы Лукашэнкі, якая трапіла на відэазапіс
2 Індывідуальныя прадпрымальнікі правялі чарговы мітынг у цэнтры Мінска
3 «Для мяне існуючыя герб і сцяг сявтыя» — Вандар'ева была змушана апраўдвацца за «Пагоню»
4 Ну што, назад у СССР? Калекцыя савецкіх фота
5 Тэхнічныя рэгламенты Мытнага саюза падпісалі прысуд беларускай мове?
6 Ці спыняць улады Рэчыцы дзейнасць вайскова-патрыятычнага клуба «Русіч», кіраўнікі якога змяшчаюць фота з нацысцкім зігам?
7 Рэцыдывісту, баевіку ЛНР удалося ўцячы ад беларускіх спецслужбаў
8 Студэнтам рассылаюць спіс забароненых арганізацый і пагражаюць адлічэннямі за выхад з дому ў «крытычныя даты»
9 Нясвіжскі след Скарлет Ёхансан
10 Саша Варламаў: Жыву на 10 тысяч у дзень. Я збіраюся стаць з шапкай у пераходзе

# Лукашэнка патрабуе пасадзіць тых, хто «прыдумаў балду» з тарыфамі на ЖКГ

Працяг са старонкі 1.

Спыненне перакрыжаванага субсідавання ЖКГ патрабаваў МВФ. Ён паставіў гэта ўмовай распачынання новай крэдытнай праграмы з Беларуссю. Аднак павышэнне камунальных плацяжоў выклікае незадаволенасць людзей.

Магчыма, Аляксандр Лукашэнка вырашыў пайсці абыходным шляхам. Калі дабіцца ад ЖКГ зніжэння тарыфаў, то ўздымаць камуналку трэ' будзе нязначна.

Праўда, тады давядзецца або зніжаць інвестыцыі ЖКГ у падтрыманне інфраструктуры, або выдзяляць на гэта грошы па іншай бюджэтнай лініі.

Сяргей Гезгала



Цікава, што ў афіцыйныя відэа з нарады трапіў кадр з цыдулкай у руках Лукашэнкі. На ёй па-руску напісана: «Павышэн. акцызаў на аўтамаб. пал. 50%», «акцызы тытунь», «тарыфы»… Далей неразборліва.

### З пошты Рэдакцыі

**«Падагрэў вады падаражэў у 8 разоў. Але! У мінулым месяцы насупраць падагрэву стаіць 100% пакрыццё, у гэтым жа — ужо выходзіць, што мы зноў аплачваем не больш за 17%»**

«Добры дзень, Наша Ніва!

Сёння атрымалі «жыроўку» з сюрпрызам. Аказалася, што падагрэў вады вырас у 8 (!) разоў. Але гэта яшчэ не ўсё.

У мінулым месяцы насупраць падагрэву стаіць 100% пакрыццё, у гэтым жа — ужо выходзіць, што мы зноў аплачваем не больш за 17%. Як так атрымалася і чаму ніхто гэта не агучваў? І як падагрэў вады са снежня 2015 года да студзеня 2016 умудрыўся вырасці ў 8 разоў пры тым, што цана на газ застаецца ранейшай, а на нафту і нафтапрадукты тыпу мазуту і інш. увогуле падае?

І чаму розныя крыніцы называюць розныя аб'ёмы кампенсацыі выдаткаў насельніцтвам: так, адзін кажа, што мы выйшлі на 100%, другі — што выйдзем да сярэдзіны 2016 года, трэці — да 2017, чацвёрты кажа, што ў плаце за ацяпленне і падагрэў вады мы павінны выйсці на 30% да 2020 года. Дзе ж усё ж такі праўда, і чым кіруецца ўрад, фарміруючы цэны на ЖКГ?»

Ксенія Каральчук

# Прадпрымальнікаў разганяла не міліцыя, а камунальнікі

**Другі мітынг** дробных гандляроў прайшоў на Кастрычніцкай плошчы.

Тыдзень таму акцыя атрымалася дастаткова шматлікай — амаль тысячу чалавек. А яшчэ ў дзень адмены санкцый Еўрасаюза на плошчы не было ніводнага міліцыянта.



Сяргей Гудзілін

Здавалася б, пасля такіх умоваў 22 лютага павінна сабрацца яшчэ болей. Але не!

Гэтым разам у цэнтры Мінска сабралася разам чалавек 500. Можа, перашкодзіў мокры снег, які гадка хлюпаў пад нагамі, а можа, самі гандляры разуўпэўніліся, што змогуць усё ж дабіцца адмены ўказа №222 аб сертыфікацыі тавараў.

Зноў было мала людзей з Мінска, затое з Барысава прыехала некалькі аўтобусаў. Дабіраліся людзі з Гродна, Гомеля, Віцебска. «Мы глыбока ў дупе, усе прадпрымальнікі. А ў мяне дома сям'я, муж пачаў ездзіць у Маскву на заробкі і спіць там у вагончыку, замест таго, каб спаць са мной. А я хачу, каб ён быў разам са мной, каб мы разам хадзілі па магазінах і трацілі нашы грошыкі», — эмацыйна казала жанчына з Барысава. «Будзем працаваць у Расіі, тры дні там, чатыры — тут», — дзялілася планамі іншая прадпрымальніца з Глыбокага.

На гэты раз мітынгоўцаў наведалі супрацоўнікі міліцыі. Не паспеў лідар АГП Анатоль Лябедзька ўзяцца за мегафон, як да яго пабеглі людзі ў форме. Але адбілі людзі! Шчыльнымі шэрагамі яны ўзялі выступоўцаў у колца ды не падпускалі да іх сілавікоў. Хвілін праз 15 змагання міліцыянты прынялі рашэнне пакінуць усё як ёсць.

Удзельнікі акцыі патрабавалі адстаўкі прэм'ер-міністра Андрэя Кабякова, міністра эканомікі Уладзіміра Зіноўскага, а таксама міністра па падатках і зборах Сяргея Налівайку. Таксама выказваўся недавер Аляксандру Лукашэнку. Варта адзначыць, што на гэты раз не знайшлося ніводнага прадпрымальніка, апроч Аляксандра Макаева, які згадзіўся б выступіць з трыбуны. Здаецца, так і не прагучала прапанаваў як жа выходзіць з гэтай сітуацыі. Скажам прама, што энтузіязму ў слухачоў было нямнога.

Калі міліцыя аказалася бяссільнай, то ў справу ўступілі камунальшчыкі. Спачатку на плошчы сталі кружляць шэсць снегаўборачных машын, якія раздзялілі натоўп на дзве часткі. А пасля ўжо прыйшлі людзі ў аранжавых камізэльках. З шуфлямі ў руках яны крычалі на пратэстоўцаў: «Рабіць вам няма чаго, лепш бы працавалі». Усё гэта было перамешана з ладнай часткай мацюкоў. Нехта з камунальшчыкаў нават разбіў тэлефон журналісткі радыё «Свабода». Зладжанай працы камунальшчыкаў мітынг не вытрымаў.

**Статкевіч і Шумчанка ладзяць яшчэ адну акцыю**

Экс-палітвязень Мікалай Статкевіч і лідар РГА «Перспектыва» Анатоль Шумчанка заявілі, што збіраюцца правесці ў Мінску Марш прадпрымальнікаў. Яны аднеслі заяўку на правядзенне маршу ў Мінгарвыканкам.

Акцыя мае прайсці 14 сакавіка (панядзелак) па вуліцы Сурганава: ад Акадэміі навук да плошчы Бангалор.

Шумчанка заявіў, што ўлада можа вырашыць праблему — пайсці на саступкі ІПэшнікам.

У той жа час на пытанне карэспандэнта «НН», чаму ён не прыйшоў на акцыі прадпрымальнікаў 15 і 22 лютага, Шумчанка адказаў, што тады здалося, што ўлады ішлі на саступкі, «таму мы вырашылі прыбраць радыкалізм».

Удзельнікі разышліся, але прынялі рашэнне зноў сабрацца на Кастрычніцкай плошчы 28 лютага а 15 гадзіне.

Зміцер Панкавец

# Беларус Парфянкоў арыштаваны ў Кіеве за ўдзел у разгроме офіса расійскага банка

Прэзідэнт Украіны Пятро Парашэнка назваў напады на офісы правакацыяй.

Групоўка АУН публічна абвясціла ў Кіеве «акцыю па знішчэнні расійскага бізнэсу».

На мінулых выхадных байцы атрада «пабілі» офіс Рыната Ахметава, разграмілі офіс расійскага «Альфа-банка» і пабілі вітрыны ў офісе «Сбербанка России».

Расійскія СМІ зрабілі гэтыя здарэнні галоўнай тэмай сваіх выпускаў на гэтых выхадных.

Васіль Парфянкоў — першы, каго затрымалі ў сувязі з пагромамі.

Цяпер Парфянкоў знаходзіцца ў ізалятары часовага ўтрымання ў Кіеве. Папярэдне яго абвінавачваюць па артыкуле 296 ч.2 Крымінальнага кодэксу Украіны «Хуліганства». Паводле гэтага артыкула, Парфянкову можа пагражаць да чатырох гадоў зняволення.

Батальён АУН выступіў з заявай, што лічыць справу палітычна матываванай, і заклікае да неадкладнага вызвалення Парфянкова. У батальёне кажуць, што акцыя накіраваная «на знішчэнне расійскага бізнэсу, супраць установаў, што зарабляюць грошы на крыві ўкраінцаў».

«Такім спосабам мы абвясцілі пратэст супраць гэтых установаў, якія зарабляюць грошы на крыві ўкраінцаў. Атрымліваецца, што мы ваюем з Расіяй, а Расія ў нас тут зарабляе грошы», — кажа камандзір батальёна АУН Мікола Каханоўскі.

У сераду ў Шаўчэнкаўскім судзе Кіеве адбудзецца працэс, які вызначыць меру стрымання Васілю Парфянкову.

Больш за год Парфянкоў знаходзіцца ва Украіне, дзе браў удзел у баявых дзеяннях. Быў параненага ў нагу, доўгі час лячыўся. Меў пазыўны Сябра.

У Беларусі Парфянкоў арыштоўваўся за ўдзел у падзеях на Плошчы ў 2010-м. Пазней яго таксама накіроўвалі на прымусовае лячэнне ад алкагалізму.

У інтэрнэце распаўсюджваецца іншыя кадры з разгрому. На іх, імаверна, зафіксаваны іншы беларус, што паехаў ваяваць ва Украіну — Эдуард Лобаў. Але ён адмовіўся пракаментаваць сітуацыю для «НН».

СГ, ЗП



Васіль Парфянкоў падчас пагрому ў «Альфа-банку».

# Домрачава, Глеб, Ганчарэнка: як спартыўная

**У Лапаравічах зямлю раздаюць чэмпіёнам, як у Драздах — чыноўнікам.**





**Футурыстычны кутні дом Дар'і Домрачавай.**

У сярэдзіне 2000-х першае «пакаленне» лукашэнкаўскай эліты атрымала дармовыя ўчасткі зямлі ў Драздах. Палацыкі там узвялі чыноўнікі, бізнэсовец Юрый Чыж, святар Фёдар Поўны, а таксама хакейны трэнер Міхаіл Захараў. На суседняй вуліцы — хакеісты Уладзімір Цыплакоў і Руслан Салей. Кошт гэтых катэджаў цяпер складае каля $1 мільёна.

У пачатку 2010-х палітычныя эліты абнавіліся, і іх засялілі непадалёку, у «Драздах-2». Тут чыноўнікаў і сілавікоў «разбавілі» некалькімі мастакамі, што афармлялі Палац Незалежнасці, і спеваком Анатолем Ярмоленкам. Хапіла прасторы і для спартсменаў — месца на першай берагавой лініі дасталася тэнісістцы Вікторыі Азаранка, тэніснаму трэнеру Сяргею Цацерыну, а таксама біятлоннаму функцыянеру Сяргею Булыгіну. Трохі менш прэстыжныя надзелы афармілі на сябе фрыстайлісты-чэмпіёны Аляксей Грышын і Антон Кушнір.

У сістэме каштоўнасцяў беларускіх эліт наяўнасць сваёй зямлі — надзвычай істотны складнік. Гэта своеасаблівае прызнанне, атрыманае ад дзяржавы. А ў дадатак гэты бонус можна перадаць дзецям, забяспечыўшы ім бясбеднае існаванне.

### «Элітная дзярэўня»

Для беларускіх спартсменаў масавым месцам раздачы зямлі сталі Лапаравічы. «О, у нас дзярэўня стала элітная», — хваліцца нам старажыл Лапаравіч, які курыць ля брамы сваёй старавадай хаты, чакаючы жонку.

Вёска знаходзіцца на паўночным беразе Заслаўскага вадасховішча (Мінскага мора). Ад кальцавой — усяго 10 км. У Лапаравічах цяпер жыве каля 250 чалавек, большасць з іх працуе ў сталіцы.

Калісьці гэта была звычайная вёска. Уздоўж адзінай вуліцы стаялі драўляныя хаты, а да самага берага вадасховішча, у нізінцы, ішлі агароды.

Аднак блізкасць да Мінска ўзняла цэны. Цяпер зямля тут дарагая, за 15 сотак гаспадары просяць ажно $300 тысяч. «Дзяржаўная» цана значна адстае — кадастравы кошт такога ж надзела складае ўсяго $25 тысяч.

Участкі пад прыватнае будаўніцтва ў Мінску не даюць, а вось у Лапаравічах з гэтым прасцей. У канцы 2000-х каля 70 надзелаў былі выдзеленыя для ахвотных палепшыць свае жыллёвыя ўмовы.

Некалькі гадоў таму Папярнянскі сельсавет выбраў больш прагрэсіўную схему раздачы зямлі — выставіў участкі на аўкцыён. Выніковая цана па розных надзелах вагалася паміж $50 тысячамі і $125 тысячамі ў залежнасці ад прэстыжнасці месца.

На спартсменах вырашылі не зарабляць. Хоць хто-хто, а яны са сваімі вялікімі кантрактамі маглі пры жаданні набыць любы надзел зямлі.

Мясцовыя ўлады вырашылі не рабіць таямніцу з прафесіі новых гаспадароў і назвалі вуліцу Спартыўнай.

Заехаць у госці да Домрачавай і кампаніі складана — расстаўленыя некалькі дарожных знакаў з папярэджаннем, што паездка па прыродаахоўнай зоне будзе каштаваць 20 базавых велічыняў (4,2 мільёна рублёў).

### Першыя жыхары — біятланісты

Першыя надзелы сталі выдаваць эліце ў канцы 2010 года. Правілы гульні змяняліся некалькі разоў.

Спачатку ўзнагародзілі біятланіста Сяргея Новікава. Магілёўскі спартсмен ніколі не хапаў зорак з неба, але на Алімпіядзе ў Турыне змог скочыць вышэй за галаву. Дасканалая стральба ў індывідуальнай гонцы прынесла яму срэбны медаль. А неўзабаве — і надзел у Лапаравічах. Новікаў атрымаў яго ў пажыццёвае спадчыннае валоданне. Усе іншыя гаспадары-спартсмены валодаюць зямлёй па праве ўласнасці.

Праз некалькі месяцаў у яго з'явіўся сусед — участак выкупіў трэнер Адрыян Цыбульскі. У замежных СМІ яго называюць «асабістым трэнерам Дар'і Домрачавай». Цыбульскі ўзначальвае біятлонную зборную Беларусі і ў федэрацыі лічыцца намеснікам старшыні КДБ Валерыя Вакульчыка.

### Прэмія для БАТЭ

Найбольшая колькасць жыхароў дадалася на вуліцу Спартыўную ў верасні 2011 года. Футбольныя заўзятары святкавалі поспех барысаўскага БАТЭ — каманда ў чарговы раз прабілася ў Лігу чэмпіёнаў.

Папярнянскі сельвыканкам узнагародзіў трох чалавек з каманды. Надзелы атрымалі трэнер Віктар Ганчарэнка (цяпер ён працуе ў маскоўскім ЦСКА), абаронца Аляксандр Юрэвіч (скончвае кар'еру ў салігорскім «Шахцёры») і нападаючы Віталь Радзівонаў, які дагэтуль застаецца галоўнай ударнай сілай БАТЭ.

Самага вядомага беларускага футбаліста, Аляксандра Глеба, у барысаўскім клубе тады яшчэ не было. Ён меў кантракт з іспанскай «Барселонай». Глеб — знаны рыбак. Магчыма, вярнуўшыся праз год у Беларусь, Аляксандр наслухаўся ад партнёраў расповеды пра рыбныя берагі Мінскага мора. Так ці інакш, але ў канцы 2014 года ён за свае грошы выкупіў адзін з суседніх дамоў.



**Аляксандр Глеб не пабаяўся вокнаў «ад падлогі да столі». А газон у яго на ўчастку — сапраўднае футбольнае поле. Бульбы ён не садзіць.**



**Сціплы дом першага жыхара — біятланіста Сяргея Новікава.**



**Лецішча Мулявіна**

Лапаравічы аказаліся ў цэнтры ўвагі, калі ў вёсцы знеслі лецішча Уладзіміра Мулявіна. Менавіта адсюль ён ехаў на сваёй машыне, калі разбіўся ў аўтакатастрофе ў 2002 годзе. Будынак стаяў пустым больш за дзесяцігоддзе, і цяпер сям'я песняра вырашыла прадаць яго. Новы гаспадар знёс састарэлае лецішча, каб пабудаваць на яго месцы сучасны катэдж.

**Ранейшыя «калоніі» спартсменаў**

У канцы 1990-х узровень дабрабыту беларусаў быў значна ніжэйшым, а «бонусы» спартыўнай эліце — значна таннейшымі. Чэмпіёнам прапанавалі пабудаваць кватэры ў ярка расфарбаваных шматпавярхоўках на вуліцы Вясёлкавай. Прычым жыллё не было падарункам, а будавалася долевым спосабам. Кватэры, напрыклад, займелі тэнісіст Максім Мірны, кіраўнік БАТЭ Анатоль Капскі.

Праз некалькі гадоў спартсмены-чэмпіёны змаглі разлічваць на катэджы. Іх найбольшая колькасць сабралася ў раёне вуліц Мястроўская і Ржавецкая, непадалёку ад «Мінск-Арэны». Тут пабудаваліся срэбраны прызёр Алімпіяды-2008 па штурханні ядра Наталля Міхневіч, бронзавы прызёр Алімпіяды-2004 па велагонках Наталля Цылінская, двухразовы прызёр Алімпіядаў фрыстайліст Дзмітры Дашчынскі і трэнерка зборнай Беларусі па мастацкай гімнастыцы Ірына Ляпарская.

# эліта абжывае бераг Мінскага мора

**Латыфундыя Домрачавых**

Увосень 2011 года ўчастак на вуліцы Спартыўнай атрымала і Дар'я Домрачава. На той момант біятланістка ўжо мела статус прызёра Алімпіяды-2010.

Аднак сапраўднае прызнанне і народная любоў прыйшлі да яе пасля наступнай Алімпіяды. Нагадаем, у 2014 годзе ў Сочы Домрачава выйграла тры залатыя і адзін срэбны медаль, а неўзабаве яшчэ і атрымала статус Героя Беларусі.

Гэтага, як палічылі чыноўнікі, было дастаткова, каб узнагародзіць сям'ю Домрачавай яшчэ некалькімі надзеламі ў Лапаравічах.

Біятланістка і так мела надзел, бліжэйшы да вады. А цяпер ёй далі дадатковыя 80 сотак «для добраўпарадкавання зоны адпачынку». У такім выпадку зямля перадаецца ў арэнду. Домрачавай давядзецца плаціць штогод па $803. Дамова заключаная на традыцыйныя 99 гадоў. Апроч таго, чарговыя 20 сотак былі запісаныя на яе маці, Ларысу Мініну.

Праект будоўлі Домрачавых выглядае самым адметным, дом будзе падобны да футурыстычнага касмічнага карабля.

**Ягор Марціновіч, фота Сяргея Гудзіліна**



**Катэджы трох прадстаўнікоў БАТЭ выбудаваныя ў шэраг.**

# Як літоўская гісторыя кахання давяла Ганну Шарэйка да суда

Пачаўся **працэс над сенатаркай**, арыштаванай паўтара года таму.

У Вярхоўным судзе працягваюцца слуханні па справе Ганны Шарэйка, члена савета рэспублікі і гендырэктаркі Віцебскай бройлернай птушкафабрыкі.

На лаве падсудных побач з Шарэйка — грамадзянін Літвы Вальдэмарас Норкус. Ён кіраваў фірмай «Даймас», якая займаецца пастаўкай кармоў і валодае 100% акцый «Руском-Р».

Шарэйка і Норкус не хавалі сваіх рамантычных адносін. Па словах пракурора, яны сужыцельствавалі, шмат адпачывалі за мяжой — Францыя, Турцыя, Балі... Шарэйка даўно ў разводзе, не мае дзяцей — у чым тут склад злачынства?

У судзе сенатарка трымаецца бадзёра як для 55-гадовай жанчыны, якая больш за паўтара года правяла ў СІЗА.

Акрамя Шарэйка і Норкуса, судзяць яшчэ пяцярых. Надзея Семчанкава, Яўген Канавальчанка, Мікалай Камароў — былыя намеснікі гендырэктара, Уладзімір Ярамцэвіч — галоўны спецыяліст па замежнаэканамічных сувязях фабрыкі, Міхаіл Разжывін — гендырэктар расійскай фірмы «Руском-Р».

Камароў і Ярамцэвіч былі вызваленыя з-пад варты. Першы правёў у СІЗА 10 месяцаў, затым быў пераведзены пад хатні арышт. Ярамцэвіча пратрымалі пад вартай амаль паўгода. Цяпер ён пад падпіскай аб нявыездзе.

Адвакат Шарэйка хадайнічала аб замене меры стрымання: па яе словах, у былой сенатаркі ёсць шэраг хранічных захворванняў, якія могуць пагражаць яе жыццю і здароўю. Да таго ж Шарэйка дасягнула пенсійнага ўзросту. Сваё 55-годдзе яна сустрэла за кратамі. Такія ж хадайніцтвы, аб замене меры стрымання, падалі і адвакаты іншых абвінавачаных. А Норкус папрасіў яшчэ і перакладчыка: па яго словах, юрыдычную тэрміналогію на рускай мове ён разумее не вельмі добра.

Суддзя Уладзімір Давыдаў доўга не мог асэнсаваць, што для літоўца юрыдычныя тэрміны на рускай мове насамрэч могуць быць незразумелыя. «Я магу даваць паказанні на літоўскай. Хай вам хто-небудзь перакладае», — прапанаваў Норкус. У выніку хадайніцтва літоўца было адхіленае.

За першыя два дні слуханняў пракурор нават не паспеў цалкам зачытаць шматтомнае абвінавачанне.

Нагадаем, што Ганна Шарэйка была затрыманая ў жніўні 2014 года па падазрэнні ў злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі.

Яна трапіла пад следства пасля тэндару аб пастаўцы кармоў. У 2012 годзе яна выбрала паслугі прадпрыемства «Руском-Р», дылера Рыжскага камбікормавага завода, а не беларусаў з аршанскага «Экамола». Пры гэтым цэны ў «Руском-Р» былі вышэйшыя. Следства палічыла, што Шарэйка адхіліла больш выгадную прапанову і нанесла прадпрыемству шкоду памерам каля 4 мільярдаў рублёў.

Аднак тут ёсць і свае нюансы. Па-першае, калі «Руском-Р» фактычна належыць «бой-фрэнду» былой сенатаркі, то «Экамол» — фірма яе прамога канкурэнта Яўгена Баскіна. Падкантрольная яму кампанія «Сервалюкс» валодае Магілёўскай і Смалявіцкай бройлернымі птушкафабрыкамі (брэнды «Пятруха» і «Браты Грыль»).

Па-другое, Шарэйка сцвярджае, што закуплены ёй камбікорм быў больш якасным. Маўляў, калі гадаваць бройлераў прадукцыяй «Сервалюкса», давялося б яшчэ дакармліваць іх чымсьці іншым.

Нарэшце, пры Шарэйка Віцебская бройлерная птушкафабрыка знаходзілася сярод самых прыбытковых беларускіх ААТ.

Артыкул, па якім абвінавачваюць сенатарку, прадугледжвае да 10 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.

Ганна Шарэйка была вельмі папулярным кіраўніком як сярод работнікаў «Ганны», так і агулам у Віцебску. Многія людзі ўспрынялі яе арышт як несправядлівы.

**Улад Швядовіч**


Шарэйка і Норкус не хавалі сваіх рамантычных адносін

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Трапіўся на хабары — станеш дырэктарам калгаса

На свабоду адзін за адным датэрмінова выходзяць чыноўнікі, у свой час асуджаныя за атрыманне хабару і злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі. Яны адразу ж атрымліваюць новыя кіруючыя пасады.

Першым стаў былы намеснік генеральнага пракурора Аляксандр Архіпаў. Ён спрабаваў закрыць справу, звязаную з гібеллю чалавека ў ДТЗ. Архіпаў быў прысуджаны да 6 гадоў пазбаўлення волі, аднак правёў за кратамі каля паўтара года. Пасля чаго ўзначаліў калгас непадалёку ад Мінска. Ён расказаў, што Аляксандр Лукашэнка загадаў скласці спіс асуджаных кіраўнікоў, каб накіраваць іх на працу.

Неўзабаве стала вядома яшчэ як мінімум пра пяць падобных гісторый.

Былы намеснік старшыні канцэрна «Белнафтахім» Уладзімір Волкаў узначаліў дырэкцыю будаваных аб'ектаў Наваполацкага нафтаперапрацоўчага завода.

Былы дырэктар Бабруйскага мясакамбіната Віктар Хадасевіч выконвае абавязкі старшыні калгаса ў Хоцімскім раёне.

Андрэй Усаў, які працаваў гендырэктарам «Магілёўдрэва», стаў выканаўчым дырэктарам па вытворчасці на прадпрыемстве-банкруце «Строммашына».

А экс-намеснік старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Ігар Стасевіч, якога асудзілі на тры гады ўзмоцненага рэжыму за перавышэнне ўлады і службовых паўнамоцтваў, стаў дырэктарам Баранавіцкага камбіната надомнай працы.

Ініцыятыва выклікае рэзкую адмоўную рэакцыю грамадства. Інтэрнэт-форумы перапоўненыя абуранымі каментарамі. Затое падчас судовых працэсаў сваякі абвінавачаных чыноўнікаў супакойваюць адзін аднаго: нічога, з год пасядзіць, пасля зноў прызначаць.

**ЯМ**

# Рэйтынг бізнэсоўцаў Беларусі: «Свет танкаў» абагнаў Чыжа

У новым рэйтынгу самых паспяховых і ўплывовых бізнэсоўцаў Беларусі вяршыню захапілі камп'ютарнікі са «Свету танкаў». Віктар Кіслы на першым месцы, высока і ягоныя кампаньёны Мікалай Кацапалаў (№15) і Іван Міхневіч (№16).

Па ранейшым лідару крызіс нанёс моцны ўдар, у выніку Юрый Чыж (№12) вылецеў з дзясяткі найлепшых. Разам з ім яшчэ адзін колішні пераможца — Уладзімір Пефціеў (№11) лічыўся самым уплывовым у канцы 2000-х.

Інтэрнэт-партал «Ежедневник» складае рэйтынг бізнэсоўцаў з 2007 года. Праект перадусім мае асветніцкую мэту. Ён спрыяе пазнавальнасці прыватнага бізнэсу, а таксама служыць крыніцай інфармацыі для патэнцыйных інвестараў. Калі пасля разгону Плошчы-2010 прымалася рашэнне аб увядзенні санкцый супраць «кашалькоў рэжыму», Еўрасаюз наклаў абмежаванні на асобаў на чале рэйтынгу «Ежедневніка».

Хто ж сёлета заняў лідарскія пазіцыі?



Юрый Чыж скаціўся з 1-га месца на 12-е.

### 2 (3). Віталь Арбузаў

Імя 51-гадовага ўраджэнца Краснаполля больш вядома за мяжой, чым у Беларусі. Арбузаў зарабіў свае мільёны ў холдынгу *Fenox Global Group*, у склад якога ўваходзяць 12 заводаў у Беларусі, Расіі і Германіі.

Адно з падраздзяленняў холдынга займаецца інвестыцыямі ў найноўшыя тэхналогіі ў азіяцкіх краінах, у тым ліку стварэннем робатаў і распрацоўкай электрамабіляў. У сферы яго інтарэсаў — Японія і Бангладэш.

### 3 (5). Аляксандр Машэнскі

Малочнаму («Савушкаў прадукт») і рыбнаму («Санта-Брэмар») магнату, самаму багатаму берасцейцу Аляксандру Машэнскаму 45 гадоў. Бізнэс заснаваў ягоны бацька, а сын разгортвае імперыю — днямі, напрыклад, стала вядома, што ён выкупляе «Першую шакаладную кампанію» («Ідэал»).

### 4 (4). Павел Тапузідзіс

59-гадовы грэк спадзяецца, што ў наступным годзе стане першым беларускім мільярдэрам. Ягоную «Карону» і тытунёвую фабрыку крызіс не закрануў. У якасці сацыяльнай нагрузкі Тапузідзіс працуе старшынёй выбарчых камісій.

### 5 (2). Аляксандр Шакуцін

З цягам часу ён стаў самым набліжаным да Лукашэнкі бізнэсоўцам. Прынамсі, у паездкі ў Сочы ці да цешчы кіраўнік краіны бярэ з сабой 56-гадовага доктара. Сярод актываў Шакуціна — «Амкадор», «Абсалютбанк» і навапалацкі «Інтэрсэрвіс».

Таксама Шакуцін — кіраўнік тэніснай федэрацыі і стваральнік прадзюсарскага цэнтра «Спамаш», галоўная зорка якога — Алёна Ланская.

### 6 (6). Яўген Баскін

Ягоныя «Сервалюкс» (брэнд «Пятруха») і Смалявіцкая птушкафабрыка («Браты Грыль») кантралююць каля траціны рынку птушкі. «Сервалюкс» займаецца яшчэ і кармамі.

На канкурэнтаў 50-гадовага магілёўскага бізнэсоўца абрынуліся крымінальныя справы. Гаспадыня Віцебскай бройлернай птушкафабрыкі Ганна Шарэйка правяла ў следчым ізалятары паўтара года. Таксама пад следствам уласнікі гродзенскага «Біякома» Андрэй Паўлоўскі і брэсцкага «Консула» Міхаіл і Леанід Гільманы.

### 7 (7). Сяргей Літвін

### 8 (18). Уладзімір Васілька

Гаспадары «Еўраопта», якія ад пачатку 2000-х жылі ў эміграцыі ў Вільні, перабраліся ў Манака. Найбуйнейшая гандлёвая сетка Беларусі дэманструе выдатныя фінансавыя вынікі. У 2014 годзе прыбытак «Еўрагандля» перавысіў $500 мільёнаў. Кампанія стала найбуйнейшым працадаўцам Беларусі, у ёй працавала больш за 22 тысячы чалавек.

### 9 (-). Аляксей Алексін

Былога партнёра Юрыя Чыжа цяпер лічаць блізкім да Аляксандра Шакуціна. Некалькі гадоў таму Алексін быў затрыманы падчас расследавання крымінальнай справы віцэ-старшыні «Белнафтахіма» Уладзіміра Волкава.

Цяпер у 49-гадовага бізнэсоўца справы ідуць добра. Кампанія «Энерга ойл» займаецца энергетыкай і нафтай, а выкуплены ім «МТБанк» з'яўляецца адным з найбуйнейшых прыватных банкаў краіны.

### 10 (11). Аляксей Жукаў

«Алютэх» захоўвае ўпэўненае лідарства на рынку вытворчасці алюмініевых профіляў. Жукаў тым часам разгортвае бізнэс у Заходняй Еўропе.

**Ягор Марціновіч**

# Самы паспяховы бізнэсовец — стваральнік гульні, у якую бавіцца Мікалай Лукашэнка

Пяць фактаў пра **Віктара Кіслага**.

Пазалетась сузаснавальнік «Варгейммінга» (гульня «Свет танкаў») Віктар Кіслы займаў 13-е месца ў рэйтынгу самых паспяховых і ўплывовых бізнэсоўцаў. Цяпер ён узначаліў спіс.





### 1. Скончыў фізфак БДУ

Віктару Кісламу 39 гадоў. Ён мінчук. «У навуковай лабараторыі, дзе працаваў мой бацька, стаялі камп'ютары — старажытныя, пузатыя. І там былі прымітыўныя першыя гульні ў выглядзе кіравання каралеўствам. Але ў нас па іх настальгія. Потым з'явіліся камп'ютарныя клубы, а ў іх ужо відэагульні: хтосьці кудысьці бяжыць, страляе, касмічны карабель кудысьці ляціць. Нам, хлапчукам, усім пагалоўна гэтыя гульні вельмі падабаліся, яны заваражылі цэлае пакаленне!» — расказваў Кіслы.

На вучобе на фізічным факультэце БДУ настаяў бацька Віктара, ён жа аддаў сына ў шахматны гурток. Бацька Уладзімір Кіслы на сёння з'яўляецца адным з суўладальнікаў *Wargaming*. «Адукацыя вельмі дапамагла нам у плане мадэлявання», — кажа бізнэсовец. Праўда, прызнаецца, што адну з сесій фактычна заваліў праз гульню ў «Цывілізацыю».

### 2. Першая гульня — шахматная партыя на сусветнай карце

Сваю першую гульню Віктар Кіслы пачаў распрацоўваць у 1996 годзе. Гэта была анлайн-гульня ў шахматы на карце свету.

«Мы, пяць-шэсць студэнтаў, жылі на стыпендыю. Мой бацька трошкі дапамагаў кішэннымі грашыма. Заробак першага праграміста — $25 на месяц. Працавалі і падзараблялі, проста каб не памерці з голаду. Але мы разумелі, калі зробім гульню ўсіх часоў і народаў, яна захопіць свет і тады мы разбагацеем! Але тады, да 2000-х, усё трымалася на энтузіязме».

Фактычна ўсе гульні Віктара Кіслага так ці інакш былі звязаныя з ваеннымі баталіямі. «Яшчэ са школы я захапляўся ваеннай гісторыяй. Памятаеце, была такая серыя — «Кніга будучых камандзіраў», «Кніга будучых адміралаў». Я чытаў іх, глядзеў шмат фільмаў пра Грамадзянскую вайну, Вялікую Айчынную вайну і 1812 год. Ваенная гісторыя дапамагла мне зразумець, што немагчыма перамагчы адразу».

### 3. «Свет танкаў»

Першым вялікім поспехам стала стратэгія «Аперацыя Баграціён», якая з'явілася ў 2007 годзе. У ёй рэканструяваліся вайсковыя дзеянні на тэрыторыі Беларусі ў 1943—1944. Паміж шахматамі і «Баграцёнам» было яшчэ з паўтара тузіна гульняў.

Але славу і грошы Віктару Кісламу прынёс «Свет танкаў». Гэта гульня проста захапіла ўсю постсавецкую, а таксама частку сусветнай прасторы. Хаця і яна «стрэльнула» не адразу. Гульня пабудаваная так, што каля 75% яе карыстальнікаў не плацяць за ўдзел. Але нават тыя 25%, што гатовыя выкладваць грошы на прасунутыя акаўнты і рэтратанкі, здольныя прыносіць кампаніі аграмадныя прыбыткі.

«Я люблю «танчыкі» ўсёй душой. На маім асабістым рахунку 10 000 баёў. Я чалавек не азартны, але *World of Tanks* мяне зацягвае. У сярэднім я праводжу ў танкавых баталіях па 50 гадзін у месяц», — кажа пра сваю гульню Віктар Кіслы.

Нядаўна Аляксандр Лукашэнка прызнаўся, што ў «танкі» любіць гуляць яго малодшы сын Мікалай. «Так, у «танках» сядзіць. Але ў яго абмежавана. Гадзіну — танкі, паўтары гадзіны музыкі, дзве гадзіны «танкі» — чатыры гадзіны музыкі», — сказаў Лукашэнка.

### 4. Прыбыткі і новыя рынкі

Выручка *Wargaming* за 2014 год па неафіцыйных лічбах склала каля $505 мільёнаў. «Зразумела, што праз падзенне расійскага рубля наша даляравая выручка, мякка кажучы, не вырасла», — кажа Кіслы. Ён заўсёды падкрэслівае, што гэты сегмент бізнэсу вельмі канкурэнтны і любая памылка можа прывесці да нечаканых вынікаў, расслабляцца нельга ні ў якім разе.

Кіслы кажа, што сакрэт поспеху таксама заключаецца ў тым, каб не спыняцца на дасягнутым, а ўвесь час заваёўваць новыя рынкі. «Скажаць, што «Штаты мы ўзялі», вядома, нельга. На гэтым рынку вельмі высокая канкурэнцыя, прычым не толькі ў гульнях — ва ўсіх абласцях. Але мы атрымалі там нейкую сваю аўдыторыю. Гэта старэйшыя мужчыны, якія водзяць дзяцей у танкавыя музеі, глядзяць *Discovery Channel*. Наступнай задачай было ахапіць аўдыторыю маладзейшую. Але гэта ўжо значна складаней: ім ужо патрэбныя шутары, ім падабаецца гуляць на кансолях. У Еўропе і ЗША нам яшчэ ёсць куды расці. А вось у Расіі адбылося насычэнне рынку. Знайсці ў Расіі мужчыну, які не чуў пра *World of Tanks*, напэўна, ужо немагчыма, хіба што ў тайзе».

Самым перспектыўным рынкам на сёння Віктар Кіслы лічыць Азію. Зусім нядаўна кампанія адкрыла прадстаўніцтвы ў Паўднёвай Карэі, Сінгапуры, Тайвані, Японіі, а таксама актыўна заваёўвае Кітай. Ёсць прадстаўніцтва нават у Аўстраліі.

### 5. Зарэгістраваны на Кіпры

Штаб-кватэра кампаніі *Wargaming* знаходзіцца ў афшорным Кіпры, аднак цэнтры распрацовак раскіданыя па ўсім свеце — ад Мінска да Аўстраліі. «Мы спраўна плацім усе падаткі, актыўна прасоўваем рэпутацыю Кіпра, уносім свой уклад у развіццё гэтай краіны», — кажа Кіслы.

«Мінск быў і застаецца сэрцам *Wargaming*, таму казаць аб пераездзе на Кіпр не зусім дакладна. У Мінску размешчаны найбуйнейшы офіс кампаніі, дзе цалкам ствараюць сусветны хіт *World of Tanks*: ад напісання кода да арганізацыі кіберспартовых спаборніцтваў і прасоўвання праекта. Офіс цалкам займае 16-павярховы будынак і налічвае каля 2000 чалавек».

**Зміцер Панкавец**

# Ці спыняць улады Рэчыцы дзейнасць «вайскова-патрыятычнага клуба»? Ён называецца «Русіч», а яго кіраўнікі любяць фатаграфавацца з нацысцкай зігай

У рэдакцыю «Нашай Нівы» прыйшоў ліст ад жыхара Рэчыцы, які паведаміў, што нядаўна мясцовыя ўлады зарэгістравалі страйкбольны клуб «Русіч», кіраўнік якога, Дзмітрый Марозаў, не хавае сваёй прыхільнасці да ідэй г.зв. «рускага свету» і нават праводзіць нейкія вайскова-патрыятычныя семінары з рэчыцкімі школьнікамі.

Ці так усё гэта?

Са старонкі Марозава «УКантакце» вынікае, што той сапраўды захапляецца дзеяннямі баевікоў так званай «Наваросіі» і нават прызнаецца, што ягоны брат ваюе дзесьці на Данбасе.

У большасці публікацый на сваёй «сцяне» ён выказвае падтрымку баевікам і знеслаўляе ўкраінцаў, таксама Марозаў падпісаны на беларусафобскія і русафільскія суполкі.

Не саромеецца кіраўнік страйкбольнага клуба «Русіч» выкладаць у інтэрнэт і свае фота, на якіх ён уздымае правую руку ў нацысцкім вітанні «Хайль Гітлер». Не адстаюць у гэтым і ягоныя аднаклубнікі, фота якіх таксама ёсць на старонцы Марозава. Сярод іх нават ёсць супрацоўнік аднаго з сілавых ведамстваў Беларусі.

Ёсць на старонцы і здымкі з іх сумеснай страйкбольнай гульні. На камуфляжы «русічаў» — шаўроны расійскіх мотастралковых войскаў. А вось ужо фота з 10-й рэчыцкай школы, дзе Марозаў праводзіць «вайскова-патрыятычныя» заняткі з дзецьмі. «Глаза ребят горели, когда им дали возможность подержать в руках различные образцы электропневматического оружия: пистолеты, автоматы, модернизированные винтовки, карабины», — захоплена пісала мясцовая раёнка «Дняпровец».



На фота Дзмітрый Марозаў выкідвае руку ў нацысцкім вітанні падчас страйкбольнай трэніроўкі летам 2015-га...



...а гэта той самы Дзмітрый Марозаў праводзіць «вайскова-патрыятычныя заняткі» са школьнікамі СШ №10 Рэчыцы.

Але як такі клуб, з такім камандзірам, мог атрымаць афіцыйную дзяржаўную рэгістрацыю? Той жа «Малады фронт» колькі гадоў не рэгіструюць, а тут — лічы адразу. Ці чыноўнікі лічаць, што «зігаваць» — гэта праява патрыятызму?

З гэтым пытаннем мы датэлефанаваліся ў аддзел спорту і турызму Рэчыцкага райвыканкама.

Там «Нашай Ніве» адказаў намеснік кіраўніка аддзела Аляксандр Горбач.

«У дадзены момант мы адсочваем клуб, вядзецца пэўная работа, і ўсё гэта будзе спынена. Ідэя патрыятычнага выхавання не ў гэтым», — адказаў на пытанне Аляксандр.

Чыноўнік сказаў, што не сёння пра гэта задумаўся, бо ўжо некаторы час адсочвае старонку гэтага клуба ў інтэрнэце.

«У такіх пытаннях трэба працаваць на апярэджванне, мы гэтым цяпер займаемся», — двойчы запэўніў Аляксандр.

**Арцём Гарбацэвіч**

# «Для мяне існуючыя герб і сцяг святыя». Вандар’ева была змушана апраўдвацца за «Пагоню»

Нядаўна «Наша Ніва» апублікавала фота са збораў у Тайландзе, на якім зорка беларускага муай-тай Кацярына Вандар’ева была ў майцы з гістарычным гербам «Пагоня».

Матэрыял сабраў шмат захопленых каментарыяў, але, відаць, нашкодзіў самой Кацярыне. Днямі яна апублікавала ў фэйсбуку допіс, каб «развеяць некаторыя брудныя чуткі».

«На старонках некаторых апазіцыйных газет і інтэрнэт-парталаў з’явіўся артыкул, дзе выкарыстаныя мае фота, — піша Вандар’ева. — Сэнс артыкулаў наступны: Вандар’ева носіць майку з гербам «Пагоня» і, значыць, яна «наша» — «апазіцыянерка». Дык вось, я не маю ніякага дачынення ні да апазіцыі, ні да герба «Пагоня» як яе сімвала. Ніякім бокам я ніколі не кранала палітыкі і сувенірная прадукцыя на мне ніколі не мела дачынення да герба «Пагоня» ў плане апазіцыі», — працягвае баксёрка.



«Гэтыя СМІ не звяртаюць ніякай увагі на фота, якое ўжо некалькі гадоў стаіць на галоўнай старонцы ў мяне ў фэйсбуку і якое відавочна супярэчыць таму, што яны прыдумляюць, запісваючы мяне ў шэрагі апазіцыі.

Спрабуючы дамагчыся папулярнасці і атрымаць замежныя гранты, змагаючыся «з дыктатурай», гэтыя СМІ не грэбуюць выкарыстоўваць хлусню і паклёп. Спрабуюць знайсці палітыку нават там, дзе яе няма і быць не можа.

Для мяне існуючы герб, сцяг і гімн маёй краіны святыя, для іх дэманстрацыі я выйгравала чэмпіянаты. А ўсё астатняе — хлусня і выдумкі няўдачнікаў у жыцці і палітыцы.

Вось цікава, гэта мой ліст гэтыя СМІ апублікуюць ці не?» — сканчае допіс Кацярына.

Адзін з фанаў спартоўкі так адрэагаваў на яе ліст: «Кацярына, мы ўсё адно цябе любім і цэнім! І разумеем, чаму ты гэта напісала. Перамагай! Мы проста захапляемся людзьмі, якія шануюць нашыя нацыянальныя сімвалы і праслаўляюць Беларусь. Вялікая павага за тое ранейшае фота. Зычым далейшых поспехаў на спартыўнай ніве!»

**АЯ**



# Гарбачоў параіў Міхалкову супакоіцца

Экс-прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў параіў кінарэжысёру Мікіту Міхалкову займацца сваімі справамі і не лезці ў палітыку. Так ён адрэагаваў на прапанову рэжысёра прызнаць палітыку Міхаіла Гарбачова і Барыса Ельцына злачыннай на дзяржаўным узроўні.

«Няхай займаецца сваёй справай, у яго заўсёды прэтэнзія такая: на цара выйсці. Так не будзе. Што тычыцца палітыкі, у яго вялікія прэтэнзіі і амбіцыі, і гэта шкодзіць. У яго ёсць свая сфера, і яна важная, мы павінны шанаваць яго талент, у палітыку яму не трэба залазіць», — заявіў Гарбачоў у эфіры «Рускай службы навін».

Раней у інтэрв'ю агенцтву І»нтэрфакс» Міхалкоў заявіў, што, на яго думку, дзеянні Гарбачова і Ельцына прывялі да развалу краіны, і назваў распад СССР вялікай геапалітычнай катастрофай.

Каментуючы гэтае выказванне, Гарбачоў параіў Міхалкову супакоіцца.

«Яму трэба супакоіцца. Я прашу ўсіх пачакаць, даць магчымасць рэалізаваць тое, што нам сёння дадзена, дадзена: запанаваць у сённяшняе жыццё, папраўдзь людзей. Яно павінна быць разважным і свабодным. Трэба, каб вар'ятаў у нас не было ні ў якой сферы жыцця і кіравання жыццём», — адзначыў экс-прэзідэнт Савецкага Саюза.

**Бі-бі-сі**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб’ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by. Факс: (017) 284-73-29**

# За марыхуану судзяць акцёра Купалаўскага, увесь калектыў прыйшоў у суд падтрымаць калегу

**Працэс акцёра Арцёма Бародзіча пачаўся ў судзе Кастрычніцкага раёна Мінска.**

Арцём Бародзіч у судзе прызнаўся, што ўжываў марыхуану раз-два на месяц апошнія шэсць гадоў. «З-за стрэсаў на працы», — апраўдваўся ён.

У 2010 годзе суд Кастрычніцкага раёна Віцебска ўжо выносіў яму прысуд за незаконны абарот наркотыкаў. «Тады мяне асудзілі да года ўмоўна».

«Я прызнаю, што ўжываў і захоўваў марыхуану. Але мэты збыту ў мяне не было. Я набываў яе заўсёды толькі для сябе», — сказаў Бародзіч.



Тую марыхуану, за якую яго «ўзялі», ён купіў у нейкага Сяргея, кажа.

«Некалькі гадоў таму на здымках пазнаёміўся з дзяўчынай, а яна мяне пазнаёміла са сваім знаёмым, які назваўся Сяргеем. Ён сказаў, што можа прадаць мне марыхуаны», — расказаў Бародзіч.

Далей, паводле акцёра, Сяргей запісаў ягоны нумар і сам тэлефанаваў, калі ў яго былі наркотыкі на продаж.

Усяго Бародзіч некалькі разоў купляў у наркагандляра марыхуану. Кожны раз — па 50 грам за 750 даляраў.

Першы ж раз Бародзіч паспрабаваў наркотыкі ў кампаніі сяброў — «пачаставалі».

«Я акцёр тэатра і кіно, часта здымаюся. Работа напружаная і звязаная з эмацыйнымі стрэсамі і нервамі. Да таго ж шчыльная загружанасць — ад 6 да 10 спектакляў на месяц, бывала па 4 спектаклі за два дні, плюс рэпетыцыі. Я працую шчыра, а калі працаваць шчыра, то ўсіх персанажаў прапускаеш праз сябе — гэта стрэс і шок для арганізма. Трэба было расслабіцца», — расказаў Бародзіч пра тое, чаму курыў наркотыкі.

«Я хаваў гэта. Бо такі аспект не характарызуе са станоўчага боку»,— сказаў акцёр пра сваё захапленне марыхуанай.

На пасяджэнні 23 лютага была дапытаная сужыцелька Бародзіча. Яна цяжарная, бачны невялічкі жывот. «Я не ведала, што Арцём штосьці ўжывае», — сцвярджае Наталля. Паводле жанчыны, яна бачыла ў лядоўні слоік, дзе Бародзіч хаваў марыхуану. Але калі яна спытала, што там, то той адказаў ёй, што там «асабістыя рэчы». А прыватных рэчаў, маўляў, яна не чапала.

Сітуацыя акцёра няпростая. Што звярнула ўвагу — ягоныя калегі ўсё адно дружна прыйшлі яго падтрымаць.

Выступіў мастацкі кіраўнік Купалаўскага тэатра Мікалай Пінігін.

Ён адзначыў, што Бародзіч адносіцца да такога тыпу артыстаў, якіх мала. «Гэта магутны прафесіянал, — сказаў Пінігін суду. — Пры горшым сканчэнні справы гэта будзе вялізная страта для нас».

«За тыя грошы, што нам плаціць дзяржава, выпадковыя людзі ў тэатры не працуюць. Там працуюць людзі, якія жывуць гэтай прафесіяй», — скончыў Пінігін.

Як сведка ад абароны выступіў і вядомы акцёр Павел Харланчук. «Гэта адзін з найлепшых акцёраў у сваім пакаленні, кажу як калега», — пачаў Харланчук.

«Арцём — вельмі паважаны чалавек. Напэўна, няма ў тэатры людзей, з якімі б ён быў у канфлікце. Гэтая тэма вісіць у тэатры перманентна, мы забываемся на гэта толькі падчас спектакляў, бо Арцём нам як сваяк», — сказаў Харланчук.

Таксама ён дадаў, што ніколі не чуў ад Бародзіча словаў пра наркотыкі: маўляў, гэтая справа для калег — поўная нечаканасць.

Бародзічу пагражае пазбаўленне волі на 5—8 гадоў.

У кастрычніку 2015 года Бародзіч быў затрыманы супрацоўнікамі праваахоўных органаў у сябе ў кватэры. Пакуль ішло расследаванне, акцёр заставаўся на волі, іграў у спектаклях. Аднак затым яго дзеянні перакваліфікавалі на больш цяжкае злачынства, і 25 студзеня Арцёму Бародзічу выставілі ўжо канчатковае абвінавачанне. Цяпер яго абвінавачваюць «у незаконных дзеяннях з мэтай збыту», набыцця і захоўвання марыхуаны.

**Арцём Гарбацэвіч**

# Новыя «Сакрэтныя матэрыялы»: стомленыя і непераканаўчыя

**Пасля 15-гадовага перапынку свет пабачыў дзясяты сезон культавага серыяла «Сакрэтныя матэрыялы».**

Пры канцы 90-х *X-files* мелі шалёную папулярнасць. Апантаны агент ФБР Фокс Малдэр і ягоная прыгажуня-напарніца Дана Скалі трапілялі ў самыя незвычайныя прыгоды. Яны расследавалі справы чупакабры, джэрсійскага д'ябла, вампіры і маньякі проста не паддаваліся лічэнню. І ўсё гэта было смачна прыперчана тэмай НЛА, а таксама змовы дзяржаўных органаў, якія даўно ўступілі ў кантакт з іншапланетнікамі, але хаваюць гэта ад людзей.

Малдэр быў чалавекам, які ішоў супраць сістэмы, біўся ў непарушны мур. Персанаж, які не можа не выклікаць даверу і суперажывання.

Праз 15 гадоў мы бачым зусім іншага Малдэра — стомленага і не адкрытага для веры ў незвычайнае. Па першай серыі дык увогуле складваецца ўражанне, што акцёр Дэвід Духоўны так і не выйшаў з ролі Хэнка Мудзі (пажаванага пісьменніка-плэйбоя) з «Памаўзлівай Каліфорніі», а яго прымусілі грацб Малдэра.



Агент ФБР нават з нейкай паблажлівасцю ставіцца да сваёй папярэдняй дзейнасці. Ён з раздражненнем кідае алоўкі ў плакат «Я хачу верыць» з выявай лятальнай талеркі. «Усё невытлумачальнае ўжо патлумачылі», — кажа герой, але ад яго хочацца чуць зусім іншае. Не дзеля гэтага мільёны людзей начамі глядзелі «Сакрэтныя матэрыялы». І хоць урэшце Малдэр сутыкаецца з нязведаным, але складваецца такое ўражанне, што гэта яго мала кранае — нейкае прафесійнае выгаранне. Такое ўражанне, што галюцынагенныя грыбы яго больш цікавяць усё ж дзеля таго, каб злавіць кайф, а не раскрыць справу.

Новыя X-files цытуюць Абаму і Трампа. Яны моцна прывязаныя да сённяшніх дзён: героі занураныя ў айфоны і карыстаюцца гуглам. Тэхнічным навінкам увогуле аддаецца нямала ўвагі. Паказана, як «простыя амерыканцы» вераць у тое, што «ААН мае план знішчэння Амерыкі праз дасыланне ім мігрантаў». Праблеме ісламскага тэрарызму прысвечаная цэлая серыя.

Дый падзеі ў дзясятым сезоне развіваюцца неяк празмерна імкліва. Дзевяць сезонаў не хапіла Малдэру і Скалі, каб разгадаць урадавую змову, а тут яны вылічваюць усё за першыя паўсерыі. Хаця ўсе добра памятаюць, што ісціна дзесьці побач?

У пятай серыі сезона агент ФБР у пераліку краін, адкуль прыходзяць трывожныя весткі, згадвае Беларусь. Хоць адна нагода для маленькай радасці: Малдэр і Скалі думаюць пра Беларусь.

**Зміцер Панкавец**

## Беларускія аўтадылеры назвалі самыя папулярныя машыны 2015 года

Беларуская аўтамабільная асацыяцыя апублікавала статыстыку продажаў за 2015 год. Якія маркі і мадэлі былі самымі папулярнымі?

На першым месцы сярод мадэляў — «Фольксваген Пола» (2900). Услед за нямецкім аўто — «Рэно Логан» (2290) і «Рэно Дастар» (2199). У выніку французскі брэнд аказаўся на першым месцы сярод марак.

Вось лідары ў сваіх сегментах:

**B-клас**
Volkswagen Polo (2900)
Renault Logan (2290)
Nissan Almera (1339)

**C-клас**
Skoda Octavia (525)
Volkswagen Jetta (304)
Nissan Sentra (262)

**D-клас**
Toyota Camry (245)
Audi A4 (118)
Mazda6 (86)

**E-клас**
Audi A6 (63)
BMW 5-Series (16)
Audi A7 Sportback (12)

**F-класс**
Mercedes S-Class (18)
Audi A8 (5)
BMW 7-Series (4)

**Купэ і кабрыялеты**
Jaguar F-Type (5)
Audi TT (3)

**B-SUV**
Renault Sandero Stepway (1610)
Nissan Juke (187)
Great Wall M4 Haval (46)

**C-SUV**
Renault Duster (2199)
Nissan Qashqai (514)
Toyota RAV4 (469)

**D-SUV**
Nissan X-Trail (324)
Mitsubishi Outlander XL (134)
Subaru Forester (117)

**E-SUV**
Toyota LC Prado (130)
BMW X6 (72)
Range Rover Sport (48)

**F-SUV**
Toyota LC200 (115)
Range Rover (78)
Mercedes GL (26)

**Усёдарожнікі**
Lada 2121 (556)
Chevrolet Niva (199)
Lada 2131 (180)

**Пікапы**
Toyota Hilux (35)
Ford Ranger (15)
Mitsubishi L200 (8)

**ЯМ**

**Кіно**

# Спаганеная класіка

Гонар і перадузятасць і зомбі
**Жанр:** жахі, баявік, меладрама
**Рэжысёр:** Бёр Сцірс
**У ролях:** Лілі Джэймс, Сэм Райлі, Бела Хіткат, Элі Бамбер, Мілі Брэйдзі, С'юкі Уотэрхаўс, Дуглас Бут, Сэлі Філіпс
ЗША, Вялікабрытанія, 107 хв.
**Адзнака:** 6.

Гадамі Англію раздзірае загадкавая хвароба: полчышчы мерцвякоў вылазяць з-пад зямлі і імкнуцца пакаштаваць на смак мірнае насельніцтва. Шляхецкія сем'і пасылаюць сваіх дзяцей у Японію і Кітай для навучання баявым мастацтвам, каб тыя маглі супрацьстаяць нападам зомбі.

Пасля таго, як насельнікі маёнтка Нэзерфілд-парк былі цалкам вынішчаныя, яго арандуе джэнтльмен па прозвішчы Бінглі. Неўзабаве ён заводзіць знаёмства з суседзямі, у ліку якіх пяць дачок пары Бенет — выбітныя ваяўніцы, абаронцы і апора графства, асабліва энергічная Элізабэт Бенет — майстар баявых мастацтваў і зброі. На балі яна сустракае палкоўніка Дарсі — жорсткага забойцу зомбі і ўвасабленне перадузятасці ў вышэйшым саслоўі. Калі зомбіэпідэмія ўзмоцніцца, ім давядзецца пераступіць праз гонар і аб'ядначца на полі бою.

Меладраматычны фільм жахаў зняты па аднайменным рамане Сэта Грэм-Сміта — мэшап-пародыі на «Гонар і перадузятасць» англійскага класіка Джэйн Осцін.

На радзіме, у Брытаніі, раман Джэйн Осцін уваходзіць у школьную праграму. Пісьменнік Грэм-Сміт паспрабаваў даць новае жыццё і прыцягнуць увагу да класікі, памясціўшы вядомы сюжэт у іншы антураж.

Галоўную ролю выканала маладая актрыса Лілі Джэймс («Папялушка» (2015), «Абацтва Даўнтан» (з 2010)). Дуэт ёй склаў Сэм Райлі («Малефісэнта» (2014)). Маладыя акцёры не паказалі найвышэйшага класу ў пастаноўцы масавых боек, а сам сюжэт фільма схіляецца то ў бок хорару, то меладрамы.

**Настасся Уласава**

**Мэшап** (англ. Mashup — змешванне) — жанр, у якім за аснову ўзятыя рэальныя гістарычныя постаці ці класічныя творы. Першапачаткова паўстаў у галіне камп'ютараў і музыкі.



# «Відовішча жудаснае. Лужына крыві, галава асобна»: як смяротнік узарваў бомбу на мінскім вакзале ў 1960-м

Нядаўна выйшла кніга ўспамінаў светлагорскага інжынера Вадзіма Болбаса «Футбол з шайбай». У адной з навелаў аўтар апісвае, як на пачатку 60-х, былышы студэнтам хімфака БДУ, ён стаў сведкам страшнага здарэння.

«Тады ж быў здзейснены першы ў Мінску тэракт, — піша Болбас. — Праўда, словы «тэракт», «смяротнік» тады яшчэ не ўжываліся, дый інфармацыя пра такія падзеі старанна хавалася. А гэта як схаваць? Выбух грымнуў на Прывакзальнай плошчы, сярод белага дня. Быў добра чутны ў лабараторыі, дзе праходзілі заняткі. Зразумела, палова факультэта кінулася туды. Відовішча жудаснае: лужына крыві, вакол разарваныя на шматкі чалавечыя парэшткі. Галава з даўгой трахеяй ляжыць асобна. Побач — цела міліцыянта ў форме з вырваным жыватом. Падзея гэтая кінула нас усіх у сапраўдны шок. «Як такое магло здарыцца? Містыка нейкая», — казалі і выкладчыкі, і студэнты».



Мікалай Вераб'ёў, які загінуў пры выбуху.

«Інфармацыю схаваць было немагчыма. Зрабіў гэта нібыта псіхічна хворы чалавек, затрыманы на вакзале міліцыянтам. Тады ён і прывёў у дзеянне самаробную бомбу», — падсумоўвае аўтар.

Але ці было такое насамрэч? Мы звярнуліся ў прэс-службу МУС, і адтуль нам адказалі, што сапраўды падобны з апісання выпадак адбыўся каля мінскага вакзала ў кастрычніку 60-га.

Ён апісаны ў кнізе «На варце стальных і паветраных магістраляў», што выйшла да 150-годдзя міліцыі на транспарце Беларусі.

Вось што там напісана.

«Восенню 1960 г. старшына Вераб'ёў Мікалай Іванавіч нёс службу ля білетных кас Мінскага прыгараднага вакзала, — гаворыцца ў кнізе. — Тут з'явіўся падазроны малады мужчына. Старшына вырашыў даставіць яго ў дзяжурны пакой для праверкі. На шляху да яго (пастарунка) невядомы цыгарэтай падпаліў бікфордаў шнур, схаваны пад вопраткай. Раздаўся вялізнай моцы выбух. Мікалай Іванавіч Вераб'ёў загінуў. Высветліць, для каго прызначалася выбухоўка, не ўдалося, але відавочна і бясспрэчна — коштам уласнага жыцця старшына прадухіліў вялікую бяду».

Мікалай Вераб'ёў нарадзіўся ў 1924 годзе на Віцебшчыне, у вёсцы Забалоцце. За даўніною падзей мы не змаглі адшукаць іншыя падрабязнасці таго выбуху, які сёння б назвалі тэрактам.

Хто ажыццявіў той выбух? Якія вынікі дало следства?

**Арцём Гарбацэвіч**

**Можа, хтосьці з чытачоў ведае нейкія падрабязнасці таго здарэння? Калі так, пішыце на nn@nn.by.**




## «Лакаматыў» аштрафаваў Тарасава на €300 тысяч за майку з выявай Пуціна

«Лакаматыў» аштрафаваў паўабаронцу Дзмітрыя Тарасава на 300 тысяч еўра за з'яўленне на полі пасля матча Лігі Еўропы з «Фенербахчэ» (0:2) у футболцы з выявай прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна. Клуб збіраецца вылічыць з заробку Тарасава і суму штрафу ад УЕФА, калі яго дадуць па выніках расследавання. УЕФА адкрыў дысцыплінарную справу ў дачыненні да «Лакаматыва», рашэнне па якой будзе вынесена 17 сакавіка. Паводле інфармацыі Sports.ru, па стане на снежань 2015 года зарплата Тарасава складала 2,4 мільёна еўра ў год.

## Расійская спявачка Вікторыя Макарская ў Мінску ўпершыню за 31 год сустрэлася з родным бацькам

42-гадовая спявачка родам з Віцебска, яна не бачыла бацьку з дзяцінства.

Вікторыя Макарская (Марозава) — жонка знакамітага расійскага спевака і акцёра Антона Макарскага. Дуэтам яны збольшага выступаюць у Расіі, нягледзячы на тое, што нарадзілася Вікторыя ў Віцебску.

У супольным з Антонам інстаграме было выкладзенае відэа, у подпісе да якога Вікторыя распавяла, што на канцэрце 14 лютага ў Мінску яна, пасля вялікага прамежку часу, нарэшце пабачыла роднага бацьку.

У адным з інтэрв'ю спявачка распавяла, што яе маці ўжо праз два тыдні пасля вяселля пашкадавала аб тым, што выйшла замуж. У сям'і былі рэгулярныя канфлікты, і праз паўтара года пасля нараджэння другой дачкі Монікі маці Вікторыі падала на развод.

Сама спявачка спрабавала звязацца з бацькам пасля нараджэння сваёй першай дачкі. Тады ўсё абмяжоўвалася тэлефоннымі размовамі, дый Вікторыя не была гатовая да сустрэчы. Але падчас прыезду ў Віцебск з канцэртам спявачка была вельмі радая пабачыць бацьку, хоць гэта і здарылася нечакана.

**МН**

# У Беларусі распрацавалі альтэрнатыву Uber

*Juno*, новы стартап заснавальнікаў *VoIP*-месенджара *Viber* Ігара Магазінніка і Тальмана Марка, дэв-цэнтр якога месціцца ў Мінску, абяцае стаць канкурэнтам звышпаспяховаму амерыканскаму стартапу *Uber*. Галоўным адрозненнем новага сэрвісу стануць яго адносіны з кіроўцамі-партнёрамі. У адрозненне ад Uber, які ўстанавіў 20-працэнтны памер камісіі з кожнай паездкі, *Juno* плануе браць толькі 10 працэнтаў. Акрамя гэтага, стартап «зарэзерваваў» за кіроўцамі роўна палову акцый кампаніі.

Як паведамляе *Forbes*, у Нью-Ёрку ўжо адбыліся сакрэтныя выпрабаванні *Juno*. У стартапа ёсць каманда інжынераў у Ізраілі. Акрамя таго, кампанія арандавала офіс плошчай амаль 1000 квадратных метраў у цэнтры Манхэтэна.

У красавіку 2015 у інтэрв'ю dev.by Марка і Магазіннік упершыню распавялі пра «паступовы» сыход з *Viber* і запуск новага стартапа. Амаль за год памер мінскага офіса *Juno Lab* перавысіў 40 чалавек, аднак тое, чым займалася каманда, трымалася ў строгім сакрэце. Першым членам і кіраўніком новай каманды стаў Аляксей Мінкевіч, які да гэтага прапрацаваў 15 гадоў у кампаніі IBA.

«Мы знайшлі тут распрацоўшчыкаў найвышэйшага класа — як прафесійна, так і чыста па-чалавечы, — растлумачыў прычыну адкрыцця офіса *Juno* ў Мінску Тальман Марка. — Цяпер мы можам узяцца за нешта, што патэнцыйна нават круцейшае і большае, чым *Viber*. Хочацца, каб беларускія распрацоўшчыкі сталі нашымі саюзнікамі ў гэтай справе».

Сэрвісы выкліку таксі *Uber* сёння даступныя ў 65 краінах і амаль у 400 гарадах свету. Капіталізацыя кампаніі складае па розных ацэнках звыш $60 млрд.

**dev.by**



Медыцына

## У ЗША стварылі рэвалюцыйныя лекі ад раку крыві

Вынікі былі агучаны на саміце Амерыканскай асацыяцыі садзейнічання развіццю навукі ў Вашынгтоне. Паводле дадзеных даследавання, лячэнне з прымяненнем генетычна мадыфікаваных імунных клетак (так званых T-лімфацытаў) амаль у 90% выпадкаў прыводзіла да поўнага аднаўлення пацыентаў, у якіх быў дыягнаставаны рак крыві на апошняй стадыі.

Як адзначае адзін з кіраўнікоў даследавання, прафесар Стэнлі Рыдэл, новая тэрапія выратавала тых пацыентаў, якім раней не дапамагалі ніякія традыцыйныя метады лячэння. «Мы не выявілі ў іх ніякіх прыкмет лейкеміі, хоць выкарыстоўвалі вельмі дакладныя тэхналогіі», — кажа Рыдэл.

Пры гэтым навукоўцы адзначаюць, што некаторыя хворыя на рак пацыенты памерлі пасля прымянення тэрапіі, таму яна мае патрэбу ў дадатковых тэстах.

**Бі-бі-сі**

Аўто

## За экзамен на правы заплацім у 6—12 разоў больш

За прыём тэарэтычнага кваліфікацыйнага экзамену на права кіравання механічным транспартным сродкам плата складзе 0,3 базавай велічыні (раней 0,05); практычнага кваліфікацыйнага экзамену на права кіравання матацыклам — 0,7 (раней 0,05); іншым механічным транспартным сродкам, за выключэннем мапеда, — 1 базавую велічыню (раней 0,1). Выдача новага талона да вадзіцельскага пасведчання будзе каштаваць 0,5 базавай велічыні (раней 0,05).

Павялічаны і памер дзяржаўнай пошліны, якая спаганяецца за выдачу дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху.

Цяпер 6 базавых велічынь давядзецца заплаціць за легкавы аўтамабіль з дазволенай максімальнай масай больш як 1,5 т, але не больш як 2 т; 8 базавых — за легкавы аўтамабіль з дазволенай максімальнай масай больш як 2 т, але не больш як 3 т, грузавы аўтамабіль, аўтамабіль-цягач і грузапасажырскі аўтамабіль з дазволенай максімальнай масай не больш як 2,5 т. Плата ў памеры 11 базавых велічынь будзе спаганяцца за легкавы аўтамабіль з дазволенай максімальнай масай больш як 3 т, прычэп з дазволенай максімальнай масай больш як 0,75 т, а 12 базавых — за аўтобус з колькасцю пасадачных месцаў да 20 уключна.

Адпаведны ўказ Лукашэнкі №53 уступіў у сілу 19 лютага.

**БелТА**

# Тэхнічныя рэгламенты Мытнага саюза падпісалі прысуд беларускай мове?

Пасля ўводу ў дзеянне Тэхнічных рэгламентаў Мытнага саюза беларускія вытворцы страцілі магчымасць карыстацца прадугледжаным Канстытуцыяй краіны правам выбару адной альбо адразу дзвюх дзяржаўных моў пры аздабленні ўпакоўкі сваёй прадукцыі. На моўным раўнапраўі пастаўлены заканадаўчы крыж. Цяпер расійская мова нават заканадаўча займела пераважнае становішча над беларускаю. Пры гэтым айчынных заканадаўцаў сітуацыя не надта хвалюе.

Яшчэ ў пачатку гэтага года выявілася, што з уступленнем Беларусі ў Мытны саюз дзяржаўнымі органамі краіны, якія ўхвалілі і ратыфікавалі адпаведныя дамовы, быў нанесены чарговы ўдар па стане беларускай мовы. Фактычна, калі раней беларускую мову з наваколнага атачэння беларусаў прыбіралі нібыта незнарок (маўляў, не карысталіся вытворцы правам выбару мовы на карысць беларускай), то цяпер, калі дастаткова вялікая колькасць вытворцаў сапраўды стала аддаваць перавагу беларускамоўнаму аздабленню сваёй прадукцыі, іх заканадаўча паставілі ў няроўныя ўмовы з тымі, для каго беларуская мова лішняя.

У студзені 2015 года адзін з віцебскіх прадпрымальнікаў вырашыў выпусціць партыю тавару, аздобіўшы ўпакоўку выключна па-беларуску. Але патрыятычны парыў вытворцы не ацанілі ў дзяржаўных органах стандартызацыі, спаслаўшыся на тое, што Тэхнічным рэгламентам Мытнага саюза прадугледжана норма, згодна з якой расійская мова, у адрозненне ад нашай нацыянальнай, на ўпакоўцы любога тавару, выпушчанага на тэрыторыі Беларусі, Расіі альбо Казахстана, нават калі сам тавар мяркуецца рэалізоўваць выключна ў Беларусі, павінна быць абавязкова.




На прадуктах у Беларусі подпісы ёсць і па-туркменску. Але няма па-беларуску.

Варта пагартаць заканадаўчую базу, каб зразумець, у які стан загналі нашу мову нашыя ж заканадаўцы.

Паводле Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, у нас па-ранейшаму дзве дзяржаўныя мовы. Закон «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» у гэтым плане дае вытворцам права выбару мовы маркіроўкі тавараў, пазначаючы ў артыкуле 30, што «маркіроўка тавараў, этыкеткі на таварах, інструкцыі па карыстанні таварамі выконваюцца на беларускай або расійскай мове».

Тое самае цвердзіць і Закон «Аб абароне правоў спажыўцоў», які ў пункце 9 артыкула 7 «Інфармацыя аб таварах (работах, паслугах)» замацоўвае тую норму, што «інфармацыя, прадугледжаная пунктамі 1–8 гэтага артыкула, на беларускай або расійскай мове дакладным і разборлівым шрыфтам даводзіцца да ведама спажыўца ў дакументацыі, якая дадаецца да тавараў (работ, паслуг), на спажывецкай тары (упакоўцы), этыкетках або іншым спосабам, прынятым для асобных відаў тавараў (работ, паслуг)». Прыкладна тое самае ў гэтым законе прапісана і ў пункце 4 артыкула 8 «Інфармацыя аб вытворцах (выканаўцах, прадаўцах)».

Нават дзяржаўны стандарт Беларусі №СТБ 1100-2007 «Харчовыя прадукты. Інфармацыя для спажыўца. Агульныя патрабаванні» сцвярджае, што любы беларускі вытворца можа праявіць патрыятызм і выканаць упакоўку свайго тавару па-беларуску. У чацвёртым раздзеле гэтага дакумента ёсць пункт 4.3, дзе сказана, што «інфармацыя для спажыўца ў выглядзе тэксту наносіцца на беларускай і/або расійскай мове і пры неабходнасці на замежнай мове ў адпаведнасці з нормамі мовы, на якой прыведзена інфармацыя». Здавалася б, усё цудоўна: выбірайце, шаноўныя вытворцы-беларусы, сабе мову, якую палічыце больш мэтазгоднай. Але…

У пачатку мінулага года мы пачалі жыць у новым утварэнні — Мытным саюзе. І ў нас пачалі дзейнічаць агульныя з Расіяй і Казахстанам нарматыўныя дакументы. А яны, як выявілася, загарнулі і моўную сферу, пытанні ў якой, паводле неадназразовых сцвярджэнняў прэзідэнта Беларусі, былі ў нас раз і назаўсёды знятыя яшчэ ў 1995 годзе. Для функцыянавання вытворчасці Мытнага саюза былі прынятыя агульныя Тэхнічныя рэгламенты ў самых розных сферах, у тым ліку і асобным дакументам былі агавораныя патрабаванні да ўпакоўкі тавараў. І тут усёмагутная рука, здавалася б, нязначнага дакументціка папросту разбурыла ўсю нашу, абвешчаную Лукашэнкам 20 гадоў таму, моўную ідылію.

Тэхнічны рэгламент Мытнага саюза № 005/2011 «Аб бяспецы ўпакоўкі», які цяпер дзейнічае і ў Беларусі, трыма радкамі пункта 4 артыкула 6 перакрэсліў усе нашыя прыгожыя нормы, прапісаныя і ў Канстытуцыі, і ў Законе «Аб мовах», і ў Законе «Аб абароне правоў спажыўцоў», і ў адпаведных рэспубліканскіх стандартах. Цяпер у нас з дзвюх раўнапраўных моў адна нават заканадаўча зрабілася «раўнейшай». Названая папера прадпісвае, што «інфармацыя павінна быць выкладзена на расійскай мове і на дзяржаўнай(ых) мове(ах) дзяржавы-чальца Мытнага саюза пры наяўнасці адпаведных патрабаванняў у заканадаўстве(ах) дзяржавы(ў)-чальца(оў) Мытнага саюза».

Дарэчы, калі не ўдумвацца, то выглядае гэты пункцік цалкам бяскрыўдна. Нават фармальна ён не супярэчыць нормам нашага заканадаўства. Бо, у прынцыпе, нідзе ў нас не напісана, што нашыя дзве дзяржаўныя мовы павінны быць раўнапраўнымі. Гэта толькі абяцалася Лукашэнкам перад вядомым рэферэндумам дваццацігадовай даўніны. За прайшоўшы з тае пары час усе ўпэўніліся, што тое былі толькі абяцанкі — насамрэч беларуская мова практычна паўсюль у справах, якія нейкім чынам тычацца дзяржавы, замененая расійскаю. Нават Канстытуцыйны суд у студзені гэтага года ўжо ў другі раз (першы быў яшчэ ў 2003 годзе) прызнаў, што «пры фармальна-юрыдычным раўнапраўі дзяржаўных моў на практыцы баланс іх выкарыстання не заўсёды захоўваецца».

Дык што, выходзіць, што Лукашэнка падмануў у моўным пытанні амаль 10 мільёнаў беларусаў? З уводам у дзеянне Тэхнічных рэгламентаў Мытнага саюза (дарэчы, такая самая норма датычна моў інфармацыі маецца не толькі ў рэгламенце пра ўпакоўку, але і ў многіх іншых) яскрава выкрылася: што так, падмануў.

Увогуле, ні для каго не ёсць сакрэтам, што сёння ў афіцыйна двухмоўнай Беларусі на ўпакоўцы пераважнай большасці тавараў знаходзіцца месца для размяшчэння інфармацыі на якіх заўгодна мовах — расійскай, ангельскай, украінскай, казахскай, малдаўскай, і нават туркменскай, але толькі не на беларускай. То няўжо гэтае становішча нармальнае? Відавочна — не! Менавіта ігнараванне моўных правоў людзей, тым больш — прадстаўнікоў тытульнай нацыі краіны, і здольнае справакаваць самыя непрадказальныя наступствы.

Справа ў тым, што калі нашыя законы даюць права вытворцу абіраць — падаваць інфармацыю на ўпакоўках сваіх тавараў па-расійску альбо па-беларуску, а новы Тэхнічны рэгламент патрабуе, каб расійская мова прысутнічала абавязкова, то пра беларускую мову можна нават і не задумвацца — выбар відавочны! Бо абавязковасць беларускай мовы нідзе не патрабуецца, а свядомае выкарыстанне дзвюх дзяржаўных моў выкліча дадатковыя расходы і паставіць канчатковую прадукцыю ў няроўныя канкурэнтныя ўмовы з «аднамоўнаю».

І гэтыя перасцярогі аб павелічэнні кошту канчатковага прадукту з-за вымушанага дублявання інфармацыі на ўпакоўцы на дзвюх мовах — не мая драматызацыя варункаў. Гэта выкладкі нашых заканадаўцаў — дэпутатаў палаты прадстаўнікоў.

Яшчэ да ўводу ў дзеянне Тэхнічных рэгламентаў Мытнага саюза гомельскі актывіст, ініцыятар кампаніі «Справаводства па-беларуску» Ігар Случак рассылаў нашым парламентарыям пісьмовыя звароты з прапановамі ўнясення зменаў у Законы «Аб мовах» і «Аб абароне правоў спажыўцоў», якія прадугледжвалі абавязковае патрабаванне прысутнасці на любой прадукцыі (таварах, работах і паслугах) інфармацыі аб ёй на абедзвюх дзяржаўных мовах. І менавіта тады пераважная большасць дэпутатаў адказвала, што не падтрымлівае прапановы Ігара, бо (тут ледзь не ва ўсіх адказах былі цалкам ідэнтычныя, нібы раздрукаваныя з аднаго файла, толькі з рознымі подпісамі, фармулёўкі абгрунтавання) «рэалізацыя прапановы прывядзе да дадатковых выдаткаў, а значыць — да павышэння цэн на тавары (работы, паслугі), што відавочна супярэчыць інтарэсам нашых грамадзян».

Але ж пасля таго, як выкрылася ганебная сітуацыя з віцебскім прадпрымальнікам, які не змог атрымаць сертыфікат адпаведнасці на прадукт, што быў аздоблены без выкарыстання расійскай мовы, Ігар Случак вырашыў аднавіць перапіску з парламентарыямі ў сувязі з новымі акалічнасцямі, якія ўзніклі ў справе. Але дагэтуль толькі некалькі дэпутатаў у сваіх адказах выказаліся, што пры ўнясенні ў парламент законапраекта аб унясенні зменаў у Законы «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» і «Аб абароне правоў спажыўцоў» яны падтрымаюць змены таго кшталту, што інфармацыя аб таварах і паслугах павінна даводзіцца да ведама спажыўца на абедзвюх дзяржаўных мовах. Праўда, ініцыяваць такі законапраект, на думку парламентарыяў, павінен нехта іншы, але не нашыя заканадаўцы.

Як бачым, ужо больш за год у Беларусі фактычна дзейнічае знішчальная для нашай нацыянальнай мовы сітуацыя ў заканадаўстве, якая не выклікае клопату афіцыйных уладаў. Неабыякавыя да беларускай мовы людзі як могуць спрабуюць звярнуць увагу дзяржавы на прыгнечаны стан нашай мовы. Але належнага выніку іх высілкі пакуль не прыносяць і абяцанага калісьці кіраўніком дзяржавы моўнага раўнапраўя ў краіне за два дзесяцігоддзі дасягнуць так і не ўдалося.

Але ў адным са сваіх апошніх адказаў дэпутат парламента А.Ф. Леўшуноў паведаміў, што Міністэрства гандлю сумесна з Нацыянальным цэнтрам заканадаўства і прававых даследаванняў рыхтуюць праект закона аб унясенні зменаў у Закон «Аб абароне правоў спажыўцоў».

Ці будзе гэты праект прадугледжваць патрабаванні па ўраўноўванні ў правах дзвюх дзяржаўных моваў — пакуль не вядома. Але калі права беларускамоўных грамадзян краіны на атрыманне інфармацыі аб таварах і паслугах на сваёй мове і гэтым разам не будзе заканадаўча замацавана, то моўная дыскрымінацыя прадстаўнікоў тытульнай нацыі ўжо будзе на сумленні дзейных дэпутатаў парламента.

**Андрусь Гаёвы**

## Інтэрнэт-банкінг на беларускай мове: «Беларусбанк» ківае на Нацыянальны банк

Як кліент банка, я прыдбаў сабе паслугу інтэрнэт-банкінгу.

Маю такую завядзёнку: усе дакументы, якія мне выдае дзяржава, прымаю толькі на беларускай мове. Тэхнічныя пашпарты на нерухомасць, тэхпашпарт на аўтамабіль. Практыкую тое самае і з камерцыйнымі недзяржаўнымі структурамі, «квазі» і сапраўднымі, такімі як страхавыя або чыста камерцыйныя фірмы. Рэзон просты: калі ўжо я плачу грошы, то пасаромна было б, каб «і гаршком назвалі, і ў печ паставілі». Прыкладам, усе мае банкаўскія карткі падпісаныя на беларускай мове.

У гэтым выпадку ўсё ішло гладка, пакуль не зайшоў на сайт «Беларусбанка». Гузік «Інтэрнэт-банкінг» уключаецца толькі ва ўвязцы з расейскай мовай. Таму напісаў электронны ліст адміністрацыі банка, дзе паставіў пытанне, калі я, карыстаючыся платнай паслугай банка, не буду зведаць дыскрымінацыю па прыкмеце мовы. Іншымі словамі, калі мяне за мае грошы перастануць дыскрымінаваць па прыкмеце беларускай мовы ў краіне, якая называецца Беларусь.

Праз восем дзён атрымаў адказ. Ён на даволі добрай беларускай мове. У тэксце за подпісам намесніка старшыні праўлення «Беларусбанка» С.М. Мельніка, у прыватнасці, гаворыцца:

«На сёння меню сістэмы «Інтэрнэт-банкінг» ААТ «ААБ Беларусбанк» фарміруецца на рускай мове. Магчымасць выкарыстання ў меню дзвюх дзяржаўных моў разглядалася банкам. Аднак, паколькі большая частка даных, якія выводзяцца пры здзяйсненні плацяжоў, прадастаўляецца банку пастаўшчыкамі паслуг (атрымальнікамі плацяжу), у тым ліку ўдзельнікамі сістэмы «Разлік» (АІС АРІП), і фарміруецца на рускай мове, банк не валодае паўнамоцтвамі па ажыццяўленні перакладу дадзенай інфармацыі на беларускую мову».

(Тут і далей цытаты падаюцца з арфаграфіяй і сінтаксісам арыгінала – Я.Б.)

Далей аўтары адказу пішуць, што «Беларусбанк» ініцыяваў перад заснавальнікам сістэмы «Разлік», Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь, ужытак пры здзяйсненні разлікаў таксама і беларускай мовы. Трэба разумець, «зверху» ініцыятыву не ўхвалілі — гэта вынікае з наступнага пасажу: «разгляд пытання аб выкарыстанні беларускай мовы ў меню сістэмы «Інтэрнэт-банкінг» можа ажыццяўляцца ААТ «ААБ Беларусбанк» толькі пры ўмове пераходу пастаўшчыкоў паслуг (у тым ліку ўдзельнікаў сістэмы «Разлік» (АІС АРІП) да фарміравання інфармацыі аб плацяжах на беларускай мове».

Такім чынам, дыскрымінацыя па прыкмеце мовы будзе працягнута, і шчырая падзяка за цікавасць, выказаная ў лісце, выглядае неяк няшчыра. Было б больш уцямна, каб атрымальнікі майго запыту звярнуліся па тлумачэнні ў вышэйшую інстанцыю або ў Канстытуцыйны суд, а мяне праінфармавалі б. Гэта ж не дзіцячы садок: маўляў, табе машынкі няма, і ўсё.

Органы і ўстановы гэтай дзяржавы часам выглядаюць разбітымі нейкім дзіўным паралюшам і недзеяздольнымі. Нават там, дзе сітуацыя яшчэ не стала канфліктнай, яйка выедзенага не вартая, паўстаюць завалы, якія грамадзянам даводзіцца разграбаць уласнымі рукамі.

**Яўген Бяласін, Брэст**

# Затрымалі школьніка-шантажыста — аматара аголеных фота

Адзінаццацікласнік са Слуцка «разводзіў» школьніц.

У Слуцку вучань трапіў пад крымінальную справу за выраб і распаўсюд парнаграфічных матэрыялаў з выявай непаўналетніх.

Адзінаццацікласнік зарэгістраваўся ў сацыяльнай сетцы «Укантакце» пад жаночым імем. Ён назваўся супрацоўніцай мадэльнага агенцтва, якая працуе ў Мінску. Хлопец наведваў старонкі дзяўчат, якія вучыліся ў яго школе, і казаў, што шукае новых мадэляў для агенцтва.

Ён прапаноўваў, каб яны дасылалі яму фотаздымкі ў купальніках, а то і ў аголеным выглядзе. Калі здымкі спадабаюцца, абяцаў ён, то ім прапануюць здымацца для часопіса за добры ганарар — ад 10 000 да 15 000 даляраў.

Потым хлопец пачаў шантажаваць дзяўчат. Ён пагражаў размясціць у інтэрнэце аголеныя фатаграфіі, каб іх пабачылі ўсе, у тым ліку іх аднакласнікі. За адмову ад такога намеру ён патрабаваў дасылаць яму яшчэ больш аголеных фота. Дайшло да таго, што некаторыя дзяўчаты нават мастурбавалі перад камерай і дасылалі яму відэаролікі.

Шантаж спынілі слуцкія міліцыянты, якія адсачылі старонку школьніка. Цяпер хлопцу пагражае ад трох да васьмі гадоў пазбаўлення волі.

**Уладзь Швядовіч**




# У Лоеве мужчына памёр у паліклініцы, праседзеўшы тры гадзіны ў чарзе да доктара

У 43-гадовага кіроўцы аднаго з прадпрыемстваў райцэнтра здарыўся інфаркт. Трагедыя адбылася 15 лютага.

Як расказвае маці памерлага Галіна Плюшчай, яе сын Васіль 15 лютага а 8.00 узяў у рэгістратуры талон №2 на прыём да тэрапеўта. «Але на прыём ён трапіў не хутка, бо ў кабінет перыядычна вадзілі «экстраных» хворых... Тэрапеўт адправіла Васю на ЭКГ, там яму паведамілі, што ў яго перадынфарктны стан, адправілі да тэрапеўта зноў на прыём, дзе ён зноў апынуўся ў чарзе. Ні доктар, ні медсястра не паклапаціліся, дзе падзеўся пацыент, а спакойна працягвалі прыём. Паглядзеўшы кардыяграму, тэрапеўт усклікнула: «Васька, у цябе не язва, а шырокі інфаркт!» Пасля чаго мой сын войкнуў і памёр. Гэта здарылася а 10.40. Чаму адразу яму не была аказана дапамога ў кабінеце ЭКГ? Чаму доктар не выклікала кардыёлага да сябе ў кабінет? Чаму медсёстры, якія праходзілі міма і не адзін раз звярталі ўвагу на яго стан, не аказалі дапамогу? Валідол давалі пацыенты, якія сядзелі з ім у чаканні прыёму. Чаму? Чаму?! Чаму?!» — плача маці памерлага.

Яна ставіць пад сумнеў заключэнне паталагаанатама: «атэрасклератычны кардыясклероз». Папершае, як заяўляе маці памерлага, ЭКГ, па словах тэрапеўта, паказала шырокі інфаркт, а па-другое, кожны год сын праходзіў медагляд па прафпрызначэнні (20 гадоў адпрацаваў кіроўцам), і такога дыягназу яму ніколі не ставілі. «Няўжо гэта захворванне можа з'явіцца за адну хвіліну?.. Дапамажыце разабрацца ва ўсім, каб у чарговы раз кагосьці іншага не напаткала такая ж доля», — звярнулася з просьбай Галіна Плюшчай.

У адміністрацыі Лоеўскай цэнтральнай раённай бальніцы пракаментавалі сітуацыю. Галоўны доктар Алена Пінчук адзначыла, што некаторыя факты, агучаныя ў інтэрнэце, не адпавядаюць рэчаіснасці. У прыватнасці, пры звароце ў рэгістратуру мужчыну не адпраўлялі ў даўрачэбны кабінет. Недакладна ўказаны і час смерці мужчыны. Як падкрэсліла Алена Пінчук, казаць пра дэталі таго, што здарылася, не можа — медкарта пацыента перададзена ў райаддзел Следчага камітэта. Зараз праводзіцца расследаванне, пасля яго заканчэння бальніца дасць афіцыйны каментар. Ва ўпраўленні аховы здароўя таксама гатовыя адказаць на ўсе пытанні пасля завяршэння праверкі.

**Алена Германовіч, Naviny.by**

## У жыхара Кобрына скралі касмічны карабель

Кобрынскія следчыя расследуюць крымінальную справу аб выкраданні віртуальнага касмічнага карабля з масавай шматкарыстальніцкай анлайнгульні *DarkOrbit*.

У міліцыю паведамленне паступіла 12 студзеня ад 30-гадовага жыхара Кобрына. Мужчына паведаміў, што невядомы ўзламаў яго паштовую скрыню, завалодаў акаўнтам у сеткавай гульні *DarkOrbit* і выкраў віртуальны касмічны карабель. Пацярпелы паведаміў, што ўкладваў у «пракачку» свайго карабля грошы і на дадзены момант яго можна прадаць прыкладна за 200 даляраў. Паводле інфармацыі *kobrincity.by*, мужчына ацаніў нанесеную шкоду ў 5 мільёнаў рублёў.

Па выніках праведзенай праверкі было выяўлена, што крадзеж адбыўся 5 студзеня. Матэрыялы былі накіраваныя ў раённы аддзел Следчага камітэта. Па факце 11 лютага была заведзена крымінальная справа па ч. 2 арт. 349 КК («Несанкцыянаваны доступ да камп'ютарнай інфармацыі»). Максімальнае пакаранне, прадугледжанае дадзеным артыкулам,— да двух гадоў пазбаўлення волі.

Асоба зламысніка высвятляецца. Праваахоўнікі праводзяць аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы.

**УШ**

## Жыхарка Нароўлі восем гадоў атрымлівала пенсію за брата, якога таемна пахавала

У Нароўлі завялі крымінальную справу на 58-гадовую мясцовую жыхарку. Жанчына атрымлівала пенсію па інваліднасці за брата, які памёр восем гадоў таму, і незаконна прысвоіла больш за 80 млн рублёў, паведамілі ў Нараўлянскім райаддзеле Следчага камітэта.

У лютым 2008 года жанчына таемна пахавала роднага брата, які памёр у 47 гадоў. Ён быў інвалідам І групы з дзяцінства. Сястра працягвала незаконна атрымліваць у паштовым аддзяленні пенсію за брата да таго часу, пакуль восенню 2015 года ўпраўленне сацыяльнай абароны насельніцтва не выявіла факт махлярства.

Былі праведзеныя эксгумацыя трупа, судова-медыцынскія і генетычныя экспертызы, якія пацвердзілі факт смерці і факт супадзення ДНК памерлага з ДНК абвінавачанай. У Следчым камітэце адзначылі, што іншыя сваякі ведалі пра махлярства, але хавалі гэта да арышту абвінавачанай. Пасля чаго сваякі пачалі добраахвотна пакрываць шкоду. На маёмасць абвінавачанай накладзены арышт.

Расследаванне завяршаецца, і найбліжэйшым часам справа будзе перададзеная ў пракуратуру для накіравання ў суд. Пенсіянерцы пагражаюць два гады пазбаўлення волі. А восем жа гадоў пажыла ўсмак баба...

**УШ**

## 50-гадовая мінчанка страціла $40 тысяч праз віртуальны «раман»

Жанчына пазнаёмілася ў сацсетках з замежнікам. Мужчына распавёў, што жыве ў Вялікабрытаніі, мае ва ўласнасці нерухомасць і вялікі рахунак у банку. Часта хадзіць у плаванне. Вельмі адзінокі і яму патрэбная спадарожніца жыцця, якая заўсёды чакала б яго на беразе. Сеткавыя адносіны развіваліся імкліва, і неўзабаве мужчына пачаў запэўніваць жанчыну, што праз некалькі месяцаў яны пажэняцца.

Пазней мужчына напісаў, што яму трэба аплаціць страхоўку за маёмасць, а на бераг ён у найбліжэйшы час не сыдзе. Будучы «муж» папрасіў жанчыну перавесці на рахунак грошы для аплаты, што тая і зрабіла. Пазней мужчына паведаміў, што выслаў сваёй выратавальніцы грошы.

Аднак праз некаторы час ёй патэлефанавала «супрацоўніца мытні» і сказала, што ў пасылцы выяўлена 45 тысяч даляраў, у сувязі з чым бандэроль арыштаваная і трэба заплаціць штраф. І зноў пацярпелая пералічыла грошы... Высветлілася, што гэта быў падман. Агулам жанчына заплаціла больш як 40 тысяч даляраў. Гэтыя грошы яна пазычыла ў знаёмых і ўзяла ў некалькіх банках крэдыт.

**БелаПАН**

## У Мінску знік без вестак 57-гадовы муж рэжысёра Алены Туравай

Міліцыя і родныя шукаюць 57-гадовага мінчука Віталя Шылкоўскага. Мужчына знік у свой дзень нараджэння, 17 лютага. Выйшаў у абед з дома па вуліцы Багдановіча, 82 і больш не вярнуўся.

Да пошукаў далучыліся валанцёры атрада «Анёл».

Арыенціроўкі ў сацыяльных сетках распаўсюджвае ПВА «Анёл», а таксама жонка зніклага — вядомая беларуская рэжысёрка мультфільмаў Алена Турава.

Вышукам займаюцца супрацоўнікі Савецкага РУУС Мінска.

Прыкметы мужчыны: рост 182 см, нармальны целасклад, вочы блакітныя, валасы сівыя. Носіць акуляры, бараду і вусы.

Быў апрануты: чорная зімовая куртка на гузіках з чорным футравым каўняром, джынсы цёмныя шэра-сінія, чаравікі вастраносыя чорныя скураныя, светла-шэры аб'ёмны махеравы швэдар.



Усіх, хто што-небудзь ведае пра месцазнаходжанне мужчыны, просяць паведаміць пра гэта ў Савецкае РУУС Мінска па тэлефоне: 8 (017) 292-02-02. Ці ж у ПВА «Анёл» па тэлефонах: 8 (033) 666-68-56, 8 (025) 666-68-56, 8 (033) 666-60-33.

**УШ**

# Пажыццёвае замянілі на расстрэл

Мінскі абласны суд прыгаварыў да расстрэлу 31-гадовага ўраджэнца вёскі Мачулішчы Мінскага раёна Сяргея Хмялеўскага. Мужчына жорстка забіў трох аднавяскоўцаў.

Раней абвінавачаны быў неаднаразова судзімы — за крадзеж, рабаванне, разбой, хуліганства...

Апошняе злачынства Хмялеўскі зладзіў 1 лістапада 2014 года. Ён зайшоў у госці да мясцовага жыхара і яго жонкі. Выпілі, пасварыліся. Хмялеўскі схапіўся за нож, жорстка расправіўся з парай, а каб схаваць злачынства, падпаліў дом. Уцякаючы, мужчына выпадкова сутыкнуўся з 57-гадовым жыхаром вёску. Спалохаўшыся непажаданага сведкі, штурхнуў яго ў бетонную яму (праз некалькі тыдняў той памёр у бальніцы). Забойца хаваўся некалькі дзён, але ў выніку быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі.

Улетку 2015 году Сяргея Хмялеўскага прысудзілі да пажыццёвага зняволення, аднак пракуратура палічыла такое пакаранне мяккім і абскардзіла прысуд. У выніку суд прыгаварыў яго



да расстрэлу. Гэты прысуд яшчэ не ўступіў у законную сілу і можа быць перагледжаны.

**УШ**

# «Такую гісторыю, як у нас, яшчэ пашукаць трэба»:

Найбяднейшы раён Беларусі — гэта Браслаўшчына. Не зважаючы на прыгажосць прыроды і турыстычны патэнцыял, тут самыя малыя заробкі ў краіне. Уся моладзь з гэтых мясцін з'язджае ці ў сталіцу, ці ў Латвію. Але як жыве сяло? Журналісты «Нашай Нівы» заехалі ў самую глуш — у Барадзенічы.

Жылых хат тут засталося ўсяго 14. Калі глядзім на вёску з вокнаў машыны, то і не зразумееш, ёсць тут жыццё ці няма, бо на вуліцах і на падворках пуста.

Галоўная адметнасць Барадзенічаў — гэта касцёл, якому сёлета 180 гадоў. Мясцовыя кажуць, што храм узнік тут праз тое, што некалі шляхціч Лапацінскі прайграў у карты амаль усе свае землі, апроч Барадзенічаў. Тады ён пакляўся, што верне ўладанні, і пабудаваў касцёл, каб прасіць Боскай дапамогі.



Ксёндз Юрый Ноцунь паказвае свайго бусла. Ён жывы!

### Юрый Ноцунь

Сёння ў гэтым касцёле служыць ксёндз Юрый Ноцунь. Ён жа вядзе і мясцовую прыхадскую школу, куды ходзяць 7 дзяцей. Толькі на ягоным падворку і відаць нейкі рух.

«Мала тут людзей засталося, — кажа пробашч, — але крэпкія. У маёй парафіі найстарэйшай бабулі 95 гадоў і ёсць адна праваслаўная, якой сёлета 100 будзе. Так яшчэ цікава склалася, што і мая бабуля ў гэтых краях жыла. Пасля вайны з сям'ёю ў Польшчу пераехала».

У пробашча жыве і другая адметнасць вёскі — бусел Фомка, які тры гады таму зваліўся з дрэва, што расце на падворку пробашча. З таго часу і жыве ў святара, бо птушкі яго ўжо не прымаюць.

«Я адразу падумаў, што выгадуем, будзе ўпрыгожваць нашую парафію, — расказвае пробашч Юрый, чухаючы бусла пад дзюбай. — Ён сваю тэрыторыю ведае і ахоўвае. Сабак ганяе — яны яго здалёк абыходзяць, і курэй, калі трэба. А пеўні яго баяцца і хаваюцца».

Пробашч таксама кажа, што палавое выспяванне цягнецца ў буслоў тры гады. Таму, імаверна, налета ён знойдзе сабе пару і адляціць.

«Шкада будзе: прывязаліся да яго ўсе. Асабліва мяне здзіўляе, як птушка энергетыку адчувае. Ёсць тут у мяне адзін хлопец у прыхадской школе, ён зладзюжка дробны. Неяк быў нават залезшы ў хату. Бусел гэта чуе і вельмі не любіць яго. Як бачыць, дык б'е, гатовы нават на галаву заскочыць. А таксама Фомка крыўдуе: цяперака я яго на вуліцу не выпускаю, бо холадна, можа куды адляцець і змерзнуць. Ён не разумее ды есці адмаўляецца, б'е мяне, калі я заходжу ў ягоны пакой», — кажа святар.



Касцёл Святога Юзафа.

Паводле Юрыя, утрыманне бусла недарагое — есць ён мясныя адкіды раз-два на дзень. Хіба што, кажа, не варта трымаць птушку ў хаце, дзе ёсць рамонт — загадзіць.

«Калі хаджу ў касцёл, то ён стане ля дзвярэй і стаіць, зазірае ўнутр, але не заходзіць», — дзеліцца назіраннем Юрый.

Мясцовыя бусла любяць: дзеці гуляюцца, а старым ён не замінае.

«У нас тут яшчэ мастак ёсць, знакаміты страшна, вы да яго зайдзіце — хата налева ад крыжа будзе, чырвоная», — развітваецца з намі святар.

### Ян Рыдзіка

У той чырвонай цаглянай хаце жыве Ян Рыдзіка са сваёй жонкай. Абодвум па 78 гадоў, былыя настаўнікі — гэдакая вясковая інтэлігенцыя.

Пакой спадара Яна ўпрыгожаны бела-чырвона-белым сцягам, там жа стаіць вялікі мальберт з пэндзлямі. Ян называе гэты пакой «студыяй».

«Я цяпер дома сяджу і жывапісам сваім займаюся, — сустракае гасцей Ян. — Няма тут да каго хадзіць: там старая з сынам маларазвітым жыве, а ў той бок таксама ўдава з сынком-алкаголікам. Рэдка хто заходзіць, і пагаварыць няма з кім. Моладзі няма ўжо гадоў як дзесяць — усе, хто мог грошы зарабляць, адсюль з'ехалі. Цяперака ў суседніх калгасах заробкі каўбасой выдаюць. Калі не пенсіянер, то яшчэ і мільён на хлеб. Але ж мы некалі з жонкай гэтую хату тут і ставілі, бо гэта культурны цэнтр быў. У школе мясцовай па 34 гады адпрацавалі, а цяперака і следу ад яе не засталося. Як мы памром, то ў нашым крыле вёскі людзей не застанецца зусім».

Рыдзікі — па мужчынскай лініі «рукастыя», як іх называюць у народзе, і хітрыя.

Бацька Яна быў знаным майстрам па дрэве — рабіў скрынкі з чорнага дубу, партабакі з загадкамі, ланцугі выразаў з дрэва без швоў паміж звёнамі, маляваў, будаваў. Дзед таксама быў неахвочы да гаспадаркі — рабіў вазы і печкі. А за часамі адмены прыгоннага права адзін з Рыдзікаў навучыўся падрабляць адкупныя граматы і такім чынам раней за астатніх стаў свабодным.

«У Барадзенічах гэдакі культурны цэнтр быў здаўна, — расказвае пра месца спадар Ян. — Яшчэ ў 30-я тут жыў такі ксёндз Шутовіч, правіў багаслужбу на беларускай мове, моладзь п'есы ставіла ў парафіяльным доме. Ставілі там і «Паўлінку», «Пінскую шляхту», «Збянтэжанага Саўку», «Моднага шляхцюка». Звычайныя сяляне гэтым займаліся, не артысты. Потым той парафіяльны дом партызаны спалілі».

У ягонай хаце мноства малюнкаў, шмат прац раскупленыя ў прыватныя калекцыі ва ўсім свеце. Ян — аўтар выставы «Грымотная слава дзядоў». Цяпер ён працуе над новай серыяй па матывах айчыннай гісторыі.

«Вось тут Гусоўскі чытае Боне «Паэму пра зубра», а тут Скарына, доктар лекарскіх навук, прыйшоў да пацыента, а тут князь Брачыслаў засноўвае Браслаў», — паказвае мастак свае творы, якія яшчэ не да канца скончаныя.

Спадар Ян кажа, што плануе скончыць карціны да лета, але ў такім узросце, мабыць, планаваць наперад не выпадае.

Мастак размаўляе па-беларуску. Кажа, што прыйшоў да гэтага ў юнацтве, пазбавіўшыся ад нацыянальных комплексаў.

«Я раней нічога пра Беларусь не ведаў. Чытаў польскія кнігі ды думаў, як ім пашчасціла, якая культура ў іх багатая, колькі слаўных герояў. А мы бедныя, нічога не маем. Але потым неяк дазнаўся пра Беларусь, зразумеў, што такую багатую гісторыю яшчэ пашукаць






**Барадзенічы** — вёска ў Браслаўскім раёне Віцебскай вобласці. Некалі вялікая і жывая, а цяпер у заняпадзе — сёння ў Барадзенічах жыве менш за 50 чалавек.

Браслаўшчына — адзін з самых прыгожых раёнаў беларускага Паазер'я.

# рэпартаж з вёскі на краі Браслаўскага раёна

трэба. Вось і жыву з гэтым, малюю карціны на гістарычныя тэмы», — кажа спадар Ян, за спінаю якога стаіць вялізная шафа, забітая кнігамі.

## «Якіх вялікіх людзей наша зямля нараджае!»

«Шмат нашая зямля вялікіх людзей нараджае. Вазьміце вось Барыса Кіта, Дамейку, Судзілоўскага. Хто ў Чылі, хто на Гаваях жыццё скончыў. Усё чаму так? Бо дзяржавы беларускай не было. Калі дзяржавы няма, то нашыя геніі робяцца чужымі, бо выбітному чалавеку, каб рэалізавацца, трэба да некага прыбіцца. «Litwo, Ojczyzno moja!» — нават Міцкевіч пісаў. Але палякі яго сваім лічаць. Хоць ягоныя балады беларускім духам прасякнутыя. Ён жа сюды, на Браслаўшчыну, да дзядзькі свайго Маеўскага на лета прыязджаў!» — усхвалявана кажа Яна Рыдзіка і ўспамінае мясцовыя легенды.

«У Барадзенічаў ёсць сваё паданне. Нібы за часамі Паўночнай вайны патапіўся ў нашым возеры буйны шведскі магнат, вайсковы начальнік. Прыехала сюды ягоная маці, заплыла ў лодцы на сярэдзіну возера і кінула туды чорны жалобны грэбень. Ад таго часу возера торфам зарасло, а дубы пачарнелі. Так і стаяць дагэтуль там чорныя дрэвы. Ну, і жыў побач некалі пан, які забараніў сыну ажаніцца з простай дзеўкай. Яны ўсё адно сустракацца не кінулі, пану пра гэта расказалі, і ён моцна пакараў сына. Тады той з каханай разам уцёк, і патапіліся яны, каб сустракацца на дне возера і далей ад чужых вачэй», — успамінае фальклорныя гісторыі мастак.

Далей гаворка зноў ідзе пра літаратуру.

«Шкада мне Караткевіча: не ў той час ён нарадзіўся, — кажа Ян Рыдзіка. — Вось успомніце Сянкевіча [Генрык Сянкевіч — вядомы польскі пісьменнік, аўтар гістарычнай прозы — АЯ]. Ён значна слабейшы за Караткевіча па сваіх мастацкіх якасцях: сентыментальны не ў меру, пафасны месцамі, слязлівы. Але ён у патрэбны час нарадзіўся, на ягоных кнігах выхоўваліся некалькі пакаленняў палякаў, кнігі былі зразумелыя ўсім абсалютна — ад простых людзей да інтэлігенцыі. Яны ганарыліся продкамі, іхнімі подзвігамі. У Караткевіча таксама ўсё гэта ёсць, але літаратура ўжо перастала быць такой важнай, як была, цяжка цяпераka прывучыць моладзь да кнігі, спазніўся чалавек».

## Без арыстакратыі і эліты няма народа

«Ну і калі жыў чалавек у д'ябальскай дзяржаве, то мусіць аддаць даніну д'яблу. Апроч «Каласоў пад сярпом тваім» у яго ўсе як ні магнат, то кепскі. Гэта завядзёнка такая, што я — мужык-беларус, не для вас, паноў, песеньку складаю. Хвароба нейкая літаратурная. Добра, што сучасныя аўтары пачалі станоўча паказваць Сапегаў, Радзівілаў. Мо яны гэтага і не заслугоўваюць, але без арыстакратыі і эліты няма народа», — пацягвае Ян.

Вельмі хвалюе мастака і будучыня Беларусі.



Ян Рыдзіка з жонкай Сафіяй.



Хата сям'і Рыдзікаў у Барадзенічах.

«Складанае пытанне пра лёс наш. Некалі я думаў, што Быкаў занадта песіміст, асабліва ў выказваннях, у прыватных размовах. А цяпер выглядае, што ён меў рацыю. Бо які ж мы шанец згубілі ў 90-я! Вось, здавалася, нарэшце я жыву ў сваёй краіне. А потым катастрофа — і ўсё пакацілася назад. Таму я бачу наш шанец у слабай Расіі. Чым яна слабейшая, тым мы мацнейшыя», — дзеліцца думкамі мастак.

У размовах пра пакутны лёс беларускай інтэлігенцыі заходзіць гаворка і пра вайну.

«За вайной вёсцы пашанцавала, — кажа Ян Рыдзіка. — У першы прызыў не шмат каго забралі, але тыя ўсю вайну прайшлі. А «запаснякоў» адмабілізавалі ў 1941 годзе. У Шаркаўшчыне эшалон стварылі і на Полацк пагналі. Пару перагонаў праехалі, і навіна: у Полацку немцы! Уся ахова гэтага эшалона некуль змылася, а мужыкі падумалі ды вярнуліся дамоў. Калгасаў у нас тады яшчэ не было, таму ўсе на асобных гаспадарках працавалі ды немцам плацілі падаткі, а тыя сюды амаль і не заглядалі да зімы 43-га. Прыехалі неяк іхнія салдаты, мы ўсе напалохаліся, думалі, што лютаваць будуць. Але тыя толькі кватараваліся, нікога не чапалі. Нашыя бабы потым пасмялелі і пачалі па немцавы аб'едкі хадзіць, каб свіней карміць. І так было, пакуль партызаны тут не з'явіліся. Мо гэта НКВД сваіх дыверсантаў закідаў, не ведаю. Толькі быў у іх штаб побач, хлопцаў нашых яны пад прымусам да сябе забіралі, маглі і да сцяны паставіць. Памятаю, прыходзяць яны ноччу, па 5—6 чалавек, глядзяць на нас, як на ворагаў, ды давай ім, маці, усяго: самагонкі, сала, масла».

Састарэлы мастак перакананы, што дзеянні партызанаў не вартыя былі той рызыкі, на якую яны выракалі народ.

«Колькі яны там шкоды тым немцам зрабілі? Дробязь, — кажа Ян. — Не параўнаць, колькі праз іх цывільныя бяды сцярпелі, ледзь не пазабівалі нас. Неяк паставілі партызаны міну ля самага ўезду ў вёску. Добра, што хтосьці з мужыкоў разбіраўся і міну тую выкруціў. Узарвіся на ёй пару немцаў — спалілі б вёску».

«А як вайна скончылася, то бацьку майго забралі Мінск адбудоўваць. Ён там ледзь з голаду не сканаў. Адпусцілі яго сюды паміраць, дык я на надворку гуляў і не пазнаў яго. Забег у хату ды крычу маці, што да нас нейкі жабрак страшны ідзе. Трохі адкармілі яго, дык і калгас стварылі — зноў голад», — са смуткам успамінае мастак і змаўкае.

Цяпер, пасля перанесенага інсульту, яму цяжка шмат гаварыць.

«Дам я параду вам адну, — кажа Ян на развітанне. — Трэба быць сумленным чалавекам. Калі чалавек сумленны, ён дрэннага іншым і краіне сваёй не зробіць».

Зацемна з вёскі ўжо не выбрацца — апошні транспарт ідзе ля 15 гадзіны. Таму нас падбіраюць двоё маладзёнаў, што на машыне неслілся па вясковай дарозе. За некалькі хвілінаў за акном праносяцца яшчэ некалькі такіх вёсак, юнак за стырном і ягоны сябра ні разу не азіраюцца па баках — яны едуць у горад.

**Арцём Гарбацэвіч,**
**фота Ірыны Арахоўскай**



Гарадзенскі замак. Няскончаная карціна Яна Рыдзікі з новай серыі, прысвечанай гісторыі Беларусі.

# Як беларусаў змушалі плаціць за ўласную ж русіфікацыю

Пра стварэнне ў Мінску рускага тэатра піша гісторык-архівіст **Зміцер Дрозд**.

У студзені 1877 Мінская гарадская ўправа сабралася на важнае пасяджэнне. А якім яшчэ магло быць пасяджэнне, на якім абмяркоўваюць вялізную дзірку ў гарадскім бюджэце? Перад управай паўстала пытанне: адмовіць у фінансаванні Мінскай губернскай турме або Мінскаму гарадскому тэатру. Гэты выбар меў сваю логіку і сыходзіў каранямі ў падзеі 30-гадовай даўніны. Але пра ўсё па парадку...

## Пасля 50 гадоў панавання Расіі руская культура заставалася ў Мінску чужой і незразумелай



Цэнтр Мінска ў 1840-м. Літаграфія французскага мастака Б.Лавэрня. Справа бачны шпіль ратушы — адзнакі колішняга Магдэбургскага права, якога не мелі гарады Расіі. Ратуша была і першым месцам паказу п'ес рускага тэатра.

### Кнут і пернік

Узведзены ў 1825 турэмны замак стаў першым сур'ёзным збудаваннем у губернскім Мінску. Горад зусім нядаўна быў далучаны да Расійскай Імперыі. А прыналежнасць да велізарнай краіны прадугледжвала абавязковую наяўнасць велізарнай турмы, якая б змясціла ўсіх мясцовых нязгодных і праз якую б ішлі, звонячы кайданамі, этапы ў Сібір.

Што такое для гісторыі трыццаць гадоў? У Мінску яшчэ шмат чаго заставалася ад краіны, якая ўжо адышла ў гісторыю, — Рэчы Паспалітай. Расейскай мовы ў горадзе амаль не было чуваць, а калі ўдавалася пачуць, дык гаварыў найчасцей ці прысланы чыноўнік, ці вайсковец. Ды што там вуліца? У большасці ўстаноў дакументацыя вялася па-польску, а ва ўніяцкіх цэрквах, дзе малілася большасць насельніцтва, можна было пачуць і «мясцовую мову».

Пра гэта не пісалі ў нашых падручніках, але праблема русіфікацыі насельніцтва востра стаяла і праз паўстагоддзя пасля далучэння беларускіх земляў да Расіі. Каб змусіць людзей размаўляць на «нармальнай» мове, метад бізуна і перніка быў выкарыстаны па поўнай: для тых, хто не прымаў новую ўладу, — турэмны замак і Сібір, а для тых, хто змірыўся з жыццём пад Расіяй, — рускі тэатр.

Так, у 40—50-х гадах XIX стагоддзя руская культура заставалася ў Мінску чужой і нават незразумелай і вымушана была канкураваць з польскай (нават зноў створаны тэатр не мог існаваць без п'ес на польскай мове). Якраз у гэтыя часы тут дзейнічаў тэатр, у якім нароўні з польскай упершыню прагучала беларуская гаворка ў п'есах Вікенція Дуніна-Марцінкевіча. Але, натуральна, ніхто не прапанаваў гэтаму тэатру дзяржаўную падтрымку — там усё рабілася за свае грошы.



Віленскі генерал-губернатар Мірковіч, які палічыў «карысным і неабходным» стварэнне рускага тэатра.

Паступова знішчаліся і рэшткі адноснай нацыянальнай і рэлігійнай памяркоўнасці: было ўведзена расійскае заканадаўства і дакументазварот на рускай мове, знішчана ўніяцкая царква, каталіцкая падвяргалася дыскрымінацыі, роўна як і мовы — спачатку польская, а потым і беларуская. На заваяваныя тэрыторыі ў вялікай колькасці засяляліся чыноўнікі і памешчыкі з велікарускіх губерняў, а асобам «польскага паходжання» забаранялася купляць зямлю, што паступова змяняла агульную карціну ў рэгіёне. А пасля рэпрэсій, якія рушылі за паўстаннем Каліноўскага, доўгі час аб развіцці нейкіх іншых культур, акрамя рускай, казаць не даводзілася.

### Жалаванне — толькі за п'есы па-руску

У 1846 губернатар Мінскай губерні Аляксей Сямёнаў звярнуўся да віленскага генерал-губернатара Фёдара Мірковіча з просьбай: «Ваша высакароддзе ў красавіку дало акцёру Вяржбіцкаму права паказу тэатральных п'ес у Мінскай губерні з тым, каб разам з п'есамі польскімі былі такія і на рускай мове. ...Вяржбіцкі ўтварыў у Мінску групу акцёраў, якімі пад кіраўніцтвам яго ад 2 чэрвеня да 6 ліпеня дадзена было сумесна з польскімі і на рускай мове 13 прадстаўленняў. Такім чынам, з дазволу Вашага высакароддзя зроблены сёлета ў Мінску па прыкладзе Вільні паспяховы досвед паказу рускіх п'ес разам з польскімі, і публіка з задавальненнем наведала тэатр.

Прызнаючы пастаяннае падтрыманне і ўмацаванне тэатральных паказаў на рускай мове ў мінскім тэатры вельмі карысным і неабходным для засваення і пашырэння рускай мовы паміж жыхарамі тутэйшага краю і знаходзячы, што адных прыбыткаў ад прадстаўленняў для гэтага было б недастаткова, я ўсепакорнейша прашу Ваша высакароддзе пра выхадатайнічанне па прыкладзе Вільні 2000 рублёў срэбрам штогод для падтрымання ў Мінску рускага тэатра і на жалаванне акцёрам, што паказваюць рускія п'есы».

Звернем увагу, што жалаванне мяркуецца даваць толькі акцёрам, што паказваюць рускія п'есы. Адказ з Вільні сведчыў пра адзінства ўспрымання і тамтэйшым начальствам, і ўсёй вертыкаллю расійскай улады аж да імператара «карыснай ролі» тэатра: «Маючы на ўвазе, што заснаванне ў Вільні рускага тэатра для паказу п'ес рускіх разам з польскімі прынесла значную карысць, спрыяючы больш тамтэйшым жыхарам знаёміцца з рускай мовай і з творамі нашых драматургаў, і прызнаючы пастаянныя тэатральныя паказы на рускай мове ў Мінску не толькі карыснымі, але і неабходнымі, хадайнічаць аб выдаткаванні па 2000 рублёў срэбрам на год з прыбыткаў горада Мінска на ўтрыманне там тэатра, дадаючы, што згаданая сума можа быць выдаткаваная без цяжкасці, калі ўсклаці звернутыя на земскія зборы Мінскай губерні выдаткі гарадской казны ў 1600 рублёў на ўтрыманне турэмнага замка і на воінскія кватэрныя патрэбы».

Мы бачым, што высокае начальства прапаноўвала мінчукам за свой кошт утрымліваць «карысную і неабходную» для Расійскай Імперыі ўстанову — рускі тэатр — для іх жа русіфікацыі. Так, іх вызвалілі ад 1600 рублёў срэбрам, якія дагэтуль яны штогод выдаткоўвалі на ўтрыманне яшчэ больш карыснага і неабходнага беларусам Мінскага турэмнага замка, пераклаўшы гэтыя выдаткі на губернскія зборы (г.зн. таксама грошы мясцовых жыхароў). Але затое абавязалі штогод выдаткоўваць 2000 рублёў на рускі тэатр. Такім чынам, карыснае нававядзенне лягло на гарадскі бюджэт дадатковым цяжарам у 400 рублёў.

### Гарадская дума пратэстуе

А з 1859 года Мінская казённая палата ... «забылася» адлічваць згаданую суму. Горад працягваў за свой кошт утрымліваць і тэатр, і турму, а кампенсацыя з губернскага бюджэту перастала паступаць. А з 1870 на горад усклалі выдаткі яшчэ і за ацяпленне, і за асвятленне Мінскага турэмнага замка, пасля і за чыстку комінаў турмы, утрыманне паліцэйскіх чыноў, кажухі для вартавых, чыстку адыходжых месцаў у турэмным замку і вайсковым лазарэце...

У студзені 1877 за ўтрыманне і турмы, і тэатра казна была вінна гораду аж 30400 рублёў срэбрам. І дэпутаты Мінска прасілі губернскае начальства або спісаць гэтую суму ў залік запазычанасці горада казне, або «вызваліць горад ад утрымання тэатра». Губернатар Мінскай губерні адпісаў: «... хадайніцтва Вашае ... мною, хоць і перададзена міністру ўнутраных спраў, але адказу не атрымана, такім чынам, да атрымання адказу ад міністра... горад абавязаны выдаткоўваць на ўтрыманне тэатра ў памеры 2000 рублёў на год на працягу трох гадоў пачынаючы ад 1878 г.».

Гэта значыць, Мінску прапаноўвалася заплаціць за тэатр 6000 рублёў за тры гады наперад. Нечакана для губернскага начальства дэпутаты Мінска праявілі дзёрзкасць і пастанавілі: вылучаць на тэатр з гарадскога бюджэту толькі 400 у год — тую розніцу, якую горад быў абавязаны плаціць першапачаткова. Наспяваў канфлікт, які трохі зглядзіла пастанова міністра ўнутраных спраў, якая паступіла праз паўгода, у ліпені 1878: спісаць з даўгоў Мінска казне 30400 рублёў і працягнуць фінансаванне турмы і тэатра па ранейшай схеме. Гораду прадпісвалася па-ранейшаму 2000 рублёў на год аддаваць на тэатр, а пытанне з кампенсацыяй не было вырашана.

Пад высокім ціскам Мінская гарадская ўправа была вымушаная падпарадкавацца і адшукаць гэтыя грошы — найперш за кошт падвышэння арэнды гарадскіх будынкаў тагачасным прадпрымальнікам. Удалося «наскрэбці па засеках» 1000 рублёў. Але гарадскі галава Казарын працягваў упарціцца, лісты губернскага начальства набылі пагрозлівыя інтанацыі: «Паколькі Мінская гарадская дума ад выдаткавання ў бягучым годзе 2000 рублёў на ўтрыманне тэатра ўхіляецца, між тым у гэтых грошах маецца патрэба з нагоды адкрыцця тэатральных спектакляў, прапануем гарадской управе цягам сямі дзён адпусціць 2000 рублёў на ўтрыманне тэатра... Сапраўднае патрабаванне з'яўляецца абавязковым да выканання».

У снежні 1878 Казарын вымушаны быў падпарадкавацца. Гарадская ўправа яшчэ спрабавала абскардзіць сітуацыю на самым высокім узроўні, даслаўшы ліст у Сенат. Але Сенат «скаргу гэтую, як не заслугоўваючую павагі, пакінуў без наступстваў...»

У выніку рускі тэатр за грошы саміх беларусаў, разам з іншымі мерапрыемствамі па русіфікацыі, спрыяў таму, што цяпер шмат хто лічыць і Мінск, і Беларусь неад'емнай часткай «рускага свету». Але трэба разумець, што гэта не першапачатковы і натуральны стан рэчаў, а ўсяго толькі вынік больш як 200-гадовай палітыкі, дэвізам якой з'яўляецца фраза «Мы заўсёды былі разам». Удалы прапагандысцкі дэвіз, які не мае гістарычнай праўды. Не заўсёды.




**Зміцер Дрозд**

гісторык-архівіст, аўтар кніг «Землеўласнікі Мінскай губерні 1861—1900», «Землеўласнікі Мінскай губерні 1900—1917». Пасля Плошчы-2010 быў асуджаны за ўдзел у «масавых беспарадках» на тры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Выйшаў на волю ў жніўні 2011.

# Памёр Умберта Эка

**Італьянскі гісторык-медыявіст, філосаф і пісьменнік Умберта Эка, найбольш вядомы сваім раманам «Імя ружы», памёр у 84 гады.**



Па словах прадстаўнікоў яго сям'і, пісьменнік памёр у пятніцу ўвечары ў сябе дома. Іншыя падрабязнасці не паведамляюцца.

Умберта Эка нарадзіўся ў невялікім горадзе Алесандрыя недалёка ад Турына ў 1932 годзе. У 1954 годзе ён скончыў Турынскі ўніверсітэт, дзе вывучаў сярэднявечную філасофію і літаратуру.

Свой першы раман — «Імя ружы» — Эка апублікаваў дастаткова позна: аж у 1980 годзе, амаль у 50 гадоў. Гэтая кніга прынесла яму славу. Сам Эка некалі расказваў, што зрабіў гэта ледзьве не на спрэчку. Яму, вядомаму гісторыку і семіётыку, патэлефанавалі з адной італьянскай газеты з прапановай напісаць апавяданне — быў такі праект, калі знакамітыя італьянцы пісалі невялікі твор. Эка ж ледзьве не абразіўся такой прапанове: калі пісаць, то цэлы раман! Цяжка сказаць, ці гэта была праўда, ці прыдумка. Умберта Эка і ў кнігах лоўка сумяшчаў гістарычную праўду і мастацкую выдумку.

Класік постмадэрнізму Умберта Эка напісаў сем раманаў. Да кожнага з іх ён падыходзіў грунтоўна, пісаў па некалькі гадоў. Свае творчыя метады ён апісаў у кнізе «Нататкі маладога раманіста».

Эка пісаў правакатыўна. Напрыклад, на ягоную кнігу «Пражскія могілкі», прысвечаную гісторыі напісання «Пратаколаў сіёнскіх мудрацоў», негатыўна адгукнуліся рабіны Італіі. Маўляў, чытач не зразумее, ці ёсць нейкая сусветная змова габрэяў аб знішчэнні цывілізацыі. Аднак Эка заўсёды верыў у ідэальнага чытача, які здольны сам разабрацца, што да чаго. У значнай меры творчасць Эка была накіраваная на тое, каб змагацца з людскім цемрашальствам, ён дэманстраваў, якой бздурай з'яўляюцца «сусветныя змовы масонаў, габрэяў ці тампліераў» і як лёгка масы здольныя ў іх паверыць.

Сёмы і апошні раман Умберта Эка — «Нулявы нумар» — быў апублікаваны ў студзені 2015 года. У гэтай кнізе Эка згадаў Беларусь. У «Пражскіх могілках» італьянец успамінаў Мінск, які назваў «далёкім кутком Усходняй Еўропы».

Сам Эка лічыў пісьменніцкую дзейнасць не самай важнай часткай свайго жыцця. «Я філосаф. Я пішу раманы толькі па выхадных», — казаў ён.

Па Эка засталіся ўдзячныя чытачы па ўсім свеце.

**Зміцер Панкавец**

**Памерла пісьменніца Харпер Лі**

Амерыканская пісьменніца Харпер Лі праславілася дзякуючы раманам «Забіць перасмешніка». Ёй было 89 гадоў. У 2015 годзе яна выдала свой другі раман «Ідзі, пастаў вартаўніка».

## Умберта Эка. **На жаль, мусім вярнуць вам ваш рукапіс**

**Ананімны аўтар. «Біблія»**

Мушу прызнацца, што першыя пару сотняў старонак гэтага рукапісу напраўду мяне захапілі. Напоўненыя дзеяннем, яны маюць усё, што сённяшні чытач патрабуе ад добрага рамана. Сэкс (і шмат сэксу, улучна з чужаложствам, гомасэксуалізмам, кровазмяшэннем), а таксама забойствы, вайна, разня і г. д.

Раздзел пра Садом і Гамору з травесцітамі, якія спрабуюць звесці анёлаў, варты самога Рабле; гісторыя пра Ноя — гэта чысты Жуль Верн; уцёкі з Егіпта так і просяцца быць экранізаванымі. Іншымі словамі, сапраўдны баявік, добра збудаваны, з мноствам паваротаў сюжэта, поўны арыгінальных вынаходак, з патрэбнаю доляю пабожнасці, і пры гэтым без ухілаў у трагедыю.

Але, чытаючы далей, я зразумеў, што гэта, хутчэй, анталогія, дзе ўдзельнічаюць некалькі аўтараў, дзе шмат — нават зашмат — паэтычных уставак, а таксама зусім нудных і сентыментальных раздзелаў ды бессэнсоўных ерэміяд.

У выніку атрымваецца пачварная мешаніна. Рукапіс, здавалася б, мае штосьці для кожнага, а ўрэшце выходзіць, што ён не звернуты ні да кога. Да таго ж давялося б ламаць галаву над тым, як набыць аўтарскія правы ад усіх гэтых аўтараў, калі б толькі за гэта не ўзяўся сам укладальнік. Дарэчы, імя ўкладальніка нідзе ў рукапісе не пазначана, нават у выходных звестках. Ці варта было гэтак хавацца?

Я прапаную паспрабаваць набыць правы толькі на пяць першых раздзелаў. Тут мы стаім на цвёрдым грунце. Варта было б знайсці і лепшы назоў. Як наконт «Адчайныя валацугі з Чырвонага мора»?

**Гамер. «Адысея»**

Асабіста мне кніга спадабалася. Добры сюжэт, захапляльны і поўны прыгодаў. Не бракуе і пра каханне — і пра вернасць шлюбу, і пра здраду (Каліпса — выдатная гераіня, сапраўдная людаедка); ёсць нават нешта ад Лаліты — у малалетняй Наўсікаі, дзе аўтар відавочна недагаворвае, але ўсё і так зразумела. Вялікі драматызм, аднавокі гігант, канібалы, нават наркотыкі, аднак у межах закона, бо, наколькі мне ведама, у спісе Бюро наркатычных сродкаў лотаса няма. Фінальная сцэна ў найлепшых традыцыях вестэрна: пару крутых маханняў кулакамі, а эпізод з лукам — проста шэдэўр прыгодніцкага жанру.

Што можна сказаць? Кніга чытаецца лёгка, не тое, што першая кніга таго самага аўтара, занадта статычная, з назольным адзінствам месца, з нудным перагружаным сюжэтам. Дачытаўшы да трэцяе бітвы і да 10-га двубою, ужо ведаеш усё наперад. Зусім іншая справа — гэтая другая кніга: чытаецца запоем. Тон у ёй спакайнейшы, узважаны, але не перагружаны. А яшчэ кампазіцыя, рэтраспекцыі, апавед у апаведзе... Адным словам, гэты Гамер — гэта тое, што трэба. Талковы аўтар.

Можа, занадта талковы. Узнікае пытанне, ці ён напраўду аўтар усяе гэтае кнігі. Ясная рэч, я ведаю, што з досведам аўтар набірае майстэрства (ягоная трэцяя кніга, магчыма, будзе сенсацыяй), але што мяне непакоіць — і ўрэшце прымушае мяне прыняць адмоўнае рашэнне — гэта поўны гармідар з аўтарскім правам. Па-першае, дзе шукаць аўтара — невядома. Тыя, хто яго ведаў, кажуць, што з ім было немагчыма спрачацца аб нейкіх зменах у тэксце, бо ён быў сляпы, як крот, не мог сачыць за рукапісам і, здавалася, нават не зусім быў з ім знаёмы. Ці сапраўды ён напісаў гэтую кнігу або толькі падпісаў яе?

**Дантэ Аліг'еры. «Боская камедыя»**

Гэты Аліг'еры — тыповы аматар папісаць у вольную часіну. (У штодзённым жыцці ён дзейны сябар гільдыі фармацэўтаў.) І ўсё ж ягоны твор выяўляе бясспрэчнае тэхнічнае ўмельства і значны апавядальны почут. Напісаная фларэнційскай гаворкай кніга складаецца з каля сотні рыфмаваных раздзелаў, шмат якія з іх цікавыя і лёгка чытаюцца. Мне асабліва спадабаліся астранамічныя апісанні і некаторыя сціслыя правакацыйныя тэалагічныя заўвагі. Трэцяя частка кнігі найлепшая і будзе мець шырокі водгук. Яна ахапляе тэмы агульнае цікавасці, клопаты звычайнага чытача — збаўленне душы, боганатхнёныя ўявы, малітвы да Святой Дзевы. Аднак першая частка цьмяная і незразумелая, з кавалкамі таннае эротыкі, гвалту і непрыхаваных зверстваў. Але найбольшая няўдача ў тым, што аўтар выбраў свой мясцовы дыялект (напэўна, пад уплывам нейкай эксцэнтрычнай авангардысцкай ідэі). Усе мы ведаем, што сённяшняя лаціна патрабуе прыліву свежае крыві — і гэта не прыхамаць нейкіх дробных літаратурных груповак. Але, урэшце, ёсць свая мяжа — калі не ў законах самой мовы, дык, прынамсі, у здольнасці публікі зразумець такі тэкст.

**Д.А. Франсуа дэ Сад. «Юстына»**

Гэты рукапіс быў сярод вялікай кучы папераў, якія я мусіў пераглядзець за гэтыя выхадныя, і таму, шчыра кажучы, я не паспеў прачытаць яго цалкам. Я разгарнуў яго наўдачу ў трох розных месцах, што, як вы ведаеце, дастаткова для спрактыкаванага вока.

Дык вось, першы раз на мяне абрынуўся слоўны абвал, старонка за старонкаю, пра філасофію прыроды, пра жорсткія адхіленні ў барацьбе за выжыванне, пра размнажэнне раслінаў і цыклічнасць жывёльных відаў. Другі раз: як найменей 15 старонак пра паняцце насалоды, пачуцці і г. д. Трэці раз: 20 старонак пра традыцыі падпарадкавання паміж мужчынамі і жанчынамі ў розных народаў свету. Думаю, гэтага дастаткова. Нам не патрэбны філасофскі трактат. Сённяшні чытач хоча сэксу, сэксу і сэксу. У розных відах і формах.

**Марсэль Пруст. «У пошуку страчанага часу»**

Гэта, безумоўна, сур'ёзная кніга, можа, занадта даўгая, але як серыя ў мяккай вокладцы будзе купляцца. Але як ёсць, яна не пойдзе. Яна патрабуе грунтоўнага рэдагавання. Напрыклад, трэба цалкам перарабіць пунктуацыю. Сказы занадта складаныя, часам яны займаюць цэлую старонку. Калі добра папрацаваць, скараціць кожны сказ максімум да двух-трох радкоў, парабіць больш адступаў, кнігу можна значна папраравіць.

Калі аўтар не згодны — тым горш для яго. Бо цяпер кніга занадта — так бы мовіць — астматычная.

**Імануіл Кант. «Крытыка практычнага розуму»**

Я папрасіў Сюзан пераглядзець гэта, і яна кажа, што пасля Барта няма сэнсу перакладаць гэтага Канта. Аднак я ўсё роўна прачытаў рукапіс сам. Невялікая кніга пра маральнасць магла б цудоўна падысці для нашай філасофскай серыі, можа, яе нават прынялі б у некаторых універсітэтах. Аднак нямецкі выдавец кажа, што калі мы возьмем гэтую, то мусім звярнуцца не толькі да папярэдняе кнігі аўтара, якая ўяўляе сабою вялізную працу як найменей на два тамы, але і да той, над якою ён цяпер працуе — пра мастацтва або пра меркаванне, я не памятаю дакладна. Усе тры кнігі маюць больш-менш той самы назоў, таму іх трэба было б прадаваць у адным футарале (і за цану, недаступную ніякаму чытачу); інакш наведнікі кнігарняў будуць блытаць іх між сабою і думаць: «Гэта я ўжо чытаў».

Ёсць яшчэ адна праблема. Нямецкі агент кажа мне, што нам варта было б надрукаваць і меншыя працы гэтага Канта, цэлую гару, улучна з нейкімі кнігамі пра астраномію. Я б параіў не звязвацца з гэтым чалавекам, бо інакш ягонымі кнігамі будуць завеленыя ўсе нашы склады.

**Франц Кафка. «Працэс»**

Цудоўная кніжка. Трылер з элементамі Хічкока. Забойства ў фінале, напрыклад. Магла б мець шырокага чытача.

Аднак відавочна аўтар пісаў ва ўмовах суворае цэнзуры. Інакш нашто ўсе гэтыя няясныя спасылкі, гэтыя хітрыкі з неназываннем людзей і мясцінаў? І за што галоўнага героя судзяць? Калі высвятліць усе гэтыя моманты і канкрэтызаваць абстаноўку (патрэбныя факты: факты, факты, факты), тады лягчэй будзе сачыць за сюжэтам і напружанне будзе забяспечана. Сапраўдны пісьменнік заўсёды мусіць памятаць пяць пытанняў старога журналіста: Хто? Што? Калі? Дзе? Чаму? Калі нам будзе дадзена свабода ў рэдагаванні — я б гэта ўзяў. Калі не — не.

**Джэймс Джойс. «Хаўтуры па Фінегану»**

Калі ласка, скажыце загадчыку рэдакцыі, каб ён быў больш уважлівы, калі высылае кнігі на заключэнне. Я чытаю англамоўныя рукапісы, а вы даслалі мне кнігу на нейкай іншай, няведамай Богу мове. Вяртаю вам яе ў асобнай пачцы.

**Пераклад з італьянскай АА**

**Упершыню апублікавана ў «НН» №11, 1993.**



Патрыярх Кірыл вітаецца з пінгвінам у Антарктыдзе. Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Кірыл адслужыў у Антарктыдзе літургію на расійскай станцыі «Белінсгаўзен» і сустрэўся з палярнікамі. Цікава, што ў Антарктыдзе размешчана аж 7 хрысціянскіх храмаў.



Плыўцоў Аляксандру Герасіменю і Яўгена Цуркіна западозрылі ў рамане. 14 лютага толькі-толькі наступіла, а Яўген Цуркін ужо адправіў Аляксандры Герасімені пяшчотны мэсэдж праз Facebook — фатаграфію з подпісам: «Для цябе, мая дарагая!». Алімпійская прызёрка даслала ў адказ паштоўку з медзведзянём.




Беларускія фанаты «Чэлсі» на «Парк дэ Прэнс» у Парыжы вывесілі банер з вышыванкай. На жаль, іх любімы клуб саступіў ПСЖ з лікам 2:1.



Чаму расплецена каса?Былая прэм'ер-міністарка Украіны, а цяпер лідарка партыі «Бацькаўшчына», памяняла імідж.




Бывае і такое. Кітайскі лыжны акрабат зарыўся носам у снег падчас Кубка свету па фрыстайле ў Раўбічах. Беларускія спартсмены ўзышлі на п'едэстал: Аляксандра Раманоўская заняла трэцяе месца, а Максім Гусцік — другое. А залатыя медалі атрымалі амерыканцы Крыстафер Ліліс і Эшлі Колдуэл.

## Анекдоты і жарты

* * *

Мядзведзі раней часу выйшлі са спячкі, калі атрымалі жыроўкі за студзень па новых тарыфах.

* * *

— Які ў Беларусі самы дарагі транспарт?

— Ліфт.

* * *

— Ты кім у дзяцінстве марыў стаць?

— «Свабодная каса» крычаць!

— Афігець! Добра, давай скафандр адзявай. Сонечную батарэю пойдзем мяняць!..

* * *

– Прабачце, вы арганізуеце конкурс празорцаў?

– Так, але набор удзельнікаў праз два тыдні. Прыходзьце пазней!

– Вы не зразумелі. Я па прыз.

* * *

Калі кот сядзіць перад дзвярыма і чакае, што вы іх адчыніце, але потым, калі вы падышлі і адчынілі, не выходзіць — значыць, ён проста хацеў, каб выйшлі вы.

* * *

— Бабуля, усе кажуць, што я лашара!

— Які ж ты лашара? Пінжачок у портачкі, портачкі ў шкарпэтачкі, на шкарпэтачкі сандалікі! Прыгажунчык!

* * *

Быў час, аддаваў бацькам свае старыя мабільныя тэлефоны. Нядаўна яны аддалі мне свой стары апарат для вымярэння ціску.

* * *

Калабок, які выжыў у лесе першыя тры дні, становіцца чэрствым і практычна неўміручым монстрам.

## «НН» сто гадоў з вамі

**У 50-летнюю гадаўшчыну смерці Тараса Шаўчэнкі.** Нам, беларусам, Шаўчэнка тым дораг, што ён ужо больш як паўсталецця выказываў тыя думкі, якімі мы цяпер жывем. Не адзін з нас прачнуўся, чытаючы «Кабзара», Шаўчэнка нам паказвае, як ісці.

**«НН». №8. 1911.**

**У выпадку пераабрання Лукашэнкі ў Беларусі можа з'явіцца расійская авіябаза.** Галоўнакамандуючы вайскова-паветранымі сіламі Расіі Уладзімір Міхайлаў, наведваючы расійскую базу ў кыргызскім Канце, сказаў: «У нас ёсць сур'ёзныя намеры мець у дзяжурным рэжыме авіябазу ў Беларусі». Пакуль незразумела, які статус будзе мець гэтая база і як хутка яна з'явіцца.

**«НН». №8. 2006.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6020. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 23.02.2016.
Замова №399.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 16008